


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714




http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 01 (3112) Год LXI | Беласток, 3 студзеня 2016 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)



# З ДЗІЎНАЙ БОЖАЙ
## Віфлеемскай Навіной!

**«Нарадзіўся для вас сёння ў горадзе Давідавым Збавіцель, Які ёсць Хрыстос Гасподзь. І вось вам знак: вы знойдзеце Дзіцятка спавітае, што ляжыць у яслях» (Лк. 2, 11-12).**

Дзе ж быў гэты горад? Геаграфічна — тады і цяпер — ён у Палесціне, ублізі — няцэлых 10 кіламетраў — ад Святога Горада Іерусаліма. І яслі там былі, у хляўку-пячоры, у скале, куды на начлег пастухі загналі свой статак, «бо не было Божаму Дзіцяці месца ў гасцініцы» (Лк. 2, 7)... І зорка вялікая свяціла над месцам, дзе быў Збавіцель, але жыхары Віфлеема і Іерусаліма яе НЕ прыкмецілі, занятыя сустрэчамі са сваякамі, якія прыйшлі, прыехалі (па ўказе кесара Аўгуста) «запісацца, кожны ў свой горад» (Лк. 2, 3), і толькі яе пабачылі, і ішлі за ёю, з далёкіх краёў, тры цары-вандроўнікі, і, прыйшоўшы, упалі на калені і пакланіліся Госпаду, і расклалі перад Ім «дары: золата, ладан і смірну» (Мтф. 2, 11)... Віфлеемцаў і іерусалімян тут НЕ было... Былі толькі палявыя пастухі ды іх скаціна, і Анёлы, што ў небе спявалі песню: «Слава ў вышніх Богу і на зямлі мір, у людзях добрая воля» (Лк. 2, 14).

А мы ўсе я-к б-у-д-з-е-м, як х-т-о з і-х у-с-і-х?.. Ці паспяшаем, пойдзем да я-с-л-я-ў? І як жа нам да іх даехаць, дайсці, далясцець?.. Палесціна ж так далёка!.. А — можа гэтак вось, проста і лёгка: няхай нашы с-э-р-ц-ы стануць Божымі яслямі?!. Давайце, Людзі Добрыя, перанясемся т-у-д-ы д-а-л-ё-к-а ў нашых думках, як спяваем у калядцы: «Я умом хадзіла ў горад Віфлеем, і была ў вярцепе і відала ў нём, што Хрыстос Спасіцель, Цар, Тварэц і Бог радзіўся ад Дзевы і ляжыць убог!»...

І мы не багаты, скажаце!.. Праўда, няма ў нас залежаў нафты, газу, алмазаў ці сапфіраў, няма банкаў, але ў нас ёсць веліч наша цудоўная: д-у-ш-а н-а-ш-а п-р-а-в-а-с-л-а-ў-н-а-я! Ёсць с-э-р-ц-а наша, с-к-а-р-б наш найбольшы!.. Мы можам з і-х з-р-а-б-і-ц-ь — захацець толькі трэба! — я-с-л-і Г-а-с-п-о-д-н-і, калі там б-у-д-з-е любоў, зычлівасць, усмешка і радасць, спачуванне да чужой бяды, да гора людскога! Для нашых б-л-і-з-к-і-х, для ўсіх і-н-ш-ы-х!..

І Хрыстос прыйдзе тады — н-а-п-э-ў-н-а! — да нас, і галаву Сваю ў н-а-с прыклоніць, сагрэецца, бо т-а-д-ы, у Ноч Нараджэння Ён НЕ МЕЎ ні калысачкі, ні падушачкі, ні коўдрачкі. Ён ляжаў на акраюшцы, адрабінамі халоднага сена, у пялёначках бедненькіх...

Паверма, будзьма ўпэўнены! — Іісус сядзе н-я-в-і-д-з-і-м-а і за Стол наш Калядны, прабудзе з намі, далей пойдзе, да іншага дому... Мы ж і ў гэты раз п-а-с-т-а-в-і-м і Я-м-у талерачку, як заўсёды дагэтуль... І Госпаду б-у-д-з-е міла з намі, бо мы будзем сардэчны! Бо Ён узрадуецца ад цяпла нашага, а мы, ва ўнутрах нашых, узбагацеем, расцвіцем (хоць і зіма ў нас, і мо, дзе ў каго, снегмяцеліца наляціць!), бо ў сэрцах нашых настане В-я-с-н-а Х-р-ы-с-т-о-в-а!..

Вось, сядайма за Стол наш з сенам пад сурвэтаю бялюсенькай, што напомніць нам т-о-е сенца, з ясляў. І пялёнкі т-ы-я бедныя, Хрыстовыя... Заспявайма радасна, са сьязінкай: «Неба і зямля ныне таржаствуюць», бо сярод нас «Хрыстос Раждаецца — слаўце!», «Хрыстос з неба — спатыкайце!», «Хрыстос на зямлі — узносьцеся (да неба)», «Спявайце Госпадзеві ўся зямля і з радасцю заспявайце людзі, бо Ён праславіўся!»...

І ўсе мы а-д-ч-у-е-м, што Збаўца Гасподзь — ва ўнутры н-а-с!.. Мы ж н-я-р-а-з дагэтуль заўважылі, што ў гэты Святы Вечар, у Ноч Калядную ў-с-е мы становімся нейкімі цішэйшымі, раднейшымі, дабрэйшымі, л-е-п-ш-ы-м-і!.. Бо Віфлеем, Святы Горад з'явіўся ў н-а-с, бо мы с-а-м-і с-т-а-л-і В-і-ф-л-е-е-м-а-м, я-с-л-я-м-і!..

А ў першы Дзень Раждажства пойдзем са звяздой ад хаты да хаты: «Новая Радасць стала, яка не бывала, над вярцепам звязда ясна светам вазсіяла»...

Дай, Хрысце Божа, У-с-і-м н-а-м шчасліва святкаваць, здаровымі быці! Дай Зямлі нашай Роднай і Усяму Свету, дзе цяпер войны, пажары і слёзы — С-в-а-й-г-о М-і-р-у! Дамоўствам і Сем'ям нашым дай, Іісусе Віфлеемскі, радасць і шчасце, на кожную хвіліну і дзень кожны!.. Хай з намі будзе Дзіўная Твая Віфлеемская Навіна!..

**Са Святам Нараджэння Божага, Добрыя Людзі! Святкуй і Ты, «Ніва» наша Дарагая! І Табе, вось-вось, споўніцца ўжо 60 гадоў! Як Ты в-ы-р-а-с-л-а, як у-з-м-у-ж-а-л-а сярод н-а-с!.. Шчасця Т-а-б-е!..**

**+ Сіман,**
**Праваслаўны Архіепіскап**
**Лодзінскі і Познаньскі,**
**Раждажство Госпадне 2016 г.**





# Падарунак

Акурат перад самымі святамі захацелася мне напісаць пра падарункі, якія дастануць беларускія дзеці на Новы год і Каляды. Тэма мне падавалася вельмі цікавай, бо мела на мэце параўнаць мінулагоднія сюрпрызы з прэзентамі гэтага года. Я быў амаль перакананы, што падарункі гэтым разам будуць значна больш сціплыя, чым тыя, якія атрымлівалі дзеткі яшчэ ў той Беларусі, у якой беспрацоўныя не мелі абавязку плаціць дзяржаве грошы, якія яны невядома дзе мусяць узяць. Ну і адпаведна, маглі нешта выдаткаваць са зберажэнняў яшчэ больш позняй эпохі, калі яшчэ мелі сталы заробак і адкладвалі на чорны дзень.

Ды і бізнесоўцы ў той Беларусі яшчэ не збіраліся кідаць працу адразу па заканчэнні каляндарнага года. І працоўныя яшчэ не пераводзіліся на скарочаныя графікі, хоць усё пакрысе да гэтага і сунулася. І пенсіянеры яшчэ не размаўлялі пра мажлівае падаўжэнне ўзросту для атрымання той пенсіі. Адным словам, зараз у мяне былі ўсе падставы меркаваць, што цяперашнія мажлівасці насельніцтва сталі, мякка кажучы, крыху сціплейшыя.

Хоць узніклі і сумненні амаль адразу, як я стаў апытваць знаёмых. Мой сябра мне так і заявіў, што не важна якія ў сям'і даходы. Дзеці — самыя важныя і бацькі будуць лезці ў пазыкі, абы толькі свята атрымалася не горш, чым мінулы раз. Чаго толькі не зробіш для сваіх дзетак.

— Ну, а што канкрэтна падорыш сваім дзецям ты? — спытаў я яго.

— Ды я яшчэ не думаў пра гэта, — пацізнуў ён плячамі. — Часу не было нават падумаць. Ну нешта ж набуду.

Адказ мяне заінтрыгаваў. Я памятаю яшчэ тую, з давён-даўна ўсталяваную традыцыю, калі задоўга да свята бацькі сядалі разам з дзецьмі, каб напісаць ліст святому Міколу або Дзеду Марозу, што зрэшты азначала адзін і той персанаж. Мы, беларусы, і ў гэтым унікальныя людзі. Гэта ў еўрапейцаў адзін святы Мікола. У рускіх адзін Дзед Мароз. У нас жа двое Каляд, два Новыя гады, па юліянскім і па грыгарыянскім календарах, і два персанажы, якія ўсядно азначаюць аднаго. Таго, хто носіць падарункі на святы і кладзе іх то ў шкарпэткі, то пад ёлку, а то і пад падушку.

Задаю гэтае ж пытанне яшчэ некальком сваім знаёмым, і дзевяць з дзесяці адказваюць гэтак жа. Бракавала часу нават падумаць пра тое, які набыць падарунак. Не тое, што напісаць ліст, паслаць яго, штодзённа размаўляць з дзецьмі пра тое, ці атрымаў яго адрасат, ці набудзе ён тое, што яго прасілі. Пагаварыць пра тое, што падарункі набываюцца старанным дзеткам, якія слухаюць бацькоў, выхавацеляў і настаўнікаў. І штодзённа павышаць узровень адчування свята, якое абавязкова прыйдзе і абавязкова будзе той самы падарунак, які пад ненавязлівымі тлумачэннямі бацькоў дзіцяня выбрала само. Гэта будзе той самы падарунак, які яму больш за ўсё патрэбны, які ён больш усяго чакаў, без якога свята быць не можа.

Гэта будзе эмоцыя, якая запомніцца на ўсё жыццё, якая прымусіць некалі потым, калі сённяшняе дзіця само стане татам або мамай, перадаць гэтую эмоцыю сваім дзецям. Далей. Туды. У будучыню, якая захавае адчуванне цуду хаця б для маленькіх...

Але ўсё змянілася. Хіба той чорны дзень, якога так баяліся і на які адкладвалі, надышоў. У людзей для казкі бракуе галоўнага — часу.

Справа нават не ў грашах, бо і за невялікія сродкі можна яшчэ сарганізаваць вялікае цуда. Не хапае галоўнага ў жыцці рэсурсу — не хапае часу, які і ёсць жыццём.

Беларусы сёння носяцца як вясковыя дзеркачы, каб зберагчы апошняе. З касы ў абменнік, бо рубель абясцэньваецца на вачах. З абменніка ў краму, бо рэчы падаражаюць. Як ёсць віза, то ў Польшчу, каб нешта набыць, і зноў на працу, каб не згубіць... І на ўсё бракуе часу...

Падарункі будуць амаль у кожнага дзіцяці. Нашы людзі для дзяцей зробяць усё, што могуць. Толькі ці будуць гэтыя падарункі святочнымі? Ці прынясуць яны ў хату той доўгачаканы цуд? Ці толькі мітусню нашага сённяшняга жыцця...

А вось адзін адказ на маё пытанне мне спадабаўся. Да гэтага то я пытаў усё ў дарослых. А тут вырашыў спытаць у дзіцяці:

— Што ты папросіш на святы?

— Я папрашу снегу, — сумна адказаў ён, — бо мінулым годам мне падарылі санкі, а я так ні разу на іх не пакатаўся.

**Віктар САЗОНАЎ**

# Метамарфозы каўбасы або Святы вось-вось



Закончыўся сезон падрыхтоўкі святочных каўбас. Дарэчы, гэта сімптаматычна, што самаробныя каўбасы сёння круцяць. Круцяць іх у гарадах, круцяць у вёсках. Калісь яны мелі нешта з рамеснага майстэрства. Саланінкава-мясная начынка, пасыпаная адпаведным складам спецый, не дай Божа, не молатая, а нарэзаная і карпатліва сціснутая пальцамі ў кішцы. Гэта былі сапраўдныя творы чалавечых рук. І смакам, і выглядам прыгадвалі ўнікальны, асобны, непаўторны арт-аб'ект, адзначаны тэмпераментам і адмысловай характаралогіяй яго стваральніка. Адважуся параўнаць яго з шэдэўрамі сусветнай культурнай спадчыны, такімі, як знакамітая «Мона Ліза» Леанарда да Вінчы або мармуровая статуя «Давід» Мікеланджэла. «Пальцоўкі» вешалі пад столлю каля печкі і то на бачным месцы, але не толькі для таго, каб іх дасушыць, але і для эстэтычнага прадстаўлення. Колцы каўбас, прыгожа скручаныя на калку, сведчылі пра багацце гаспадароў, а таксама пра іх мастацкія схільнасці. І, сапраўды, зіхацелі яны так прыгожа тлушчыкам, як рэнесансныя карціны лакам. А іх структура, што прасвечвалася праз кішку, насіла метафізічны адбітак. Сапраўды, сельскія хаты ў перадкалядны перыяд нагадвалі мастацкую галерэю. Анджэй Асэнка, паважаны мастацтвазнаўца, які сваіх назіранняў не адносіў адно да метамарфоз каўбас, сцвярджаў, што паняцце культурнай спадчыны вёскі складаецца з творчага перайманне і індывідуальнага эстэтычнага пачуцця, якое неабавязкова выяўляецца схільнасцю да серыйнай мазні — ландшафтаў з вялікай равучых аленяў у часе гону. Як справядліва адзначыў у той жа час, мода на алеадрукі, серыйна адбіваную мазню, сфармавалася найперш у гарадскім асяроддзі ды ў вясковыя хаты ўварвалася ўсур'ёз у сярэдзіне дзевятнаццатага стагоддзя, калі прадукты рамёстваў пачалі выціскаць серыйнымі завадскімі рэпрадукцыямі. Іншымі словамі, арыгінальную эстэтыку вёскі сапсаваў горад. Сапраўды гэтак жа горад, які з'яўляецца рухавіком прагрэсу цывілізацыі, у адрозненне ад вёскі, якая да нядаўняга часу была апорай традыцыі і кансерватыўнага ўпадабання густаў, сапсаваў таксама каўбасу. Эх, памятаю той трагічны год, калі мая бабуля купіла мясарубку і частавала мяне «кручанай» каўбасой. Святочнай каўбасой! Я прызнаюся, што нават дзікі алень з ландшафту, завешаны над яе ложкам, зароў сапраўды чалавечым голасам: гора нам, гора! Толькі што ўсё і так з трэскам праваліласця. Бабулі так спадабался кручэнне каўбас, што так і засталася ў сваім цывілізацыйным зачараванні паслядоўнай да сваёй смерці. Таму што, як казала, штучнымі сківіцамі лягчэй укусіць кручаную каўбасу. Ну так, пратэзы таксама прыблыталіся ў вёску з гарадской модай!

Але вярнуся да каўбас... Каталікі свае накруцілі. Але ў маёй вёсцы і ў суседніх, дзе праваслаўных і каталікаў напалову, хіба нават і ў роўных прапорцыях, усё-такі ў непасвараных адносінах, прыхатнія вяндлярні ўсё яшчэ дымяць. Паміж хатамі сцелецца тоўсты пах каўбас, вяндлін, бачкоў, кіндзюкоў і саланінак, змяшаны з водарам паленых іголак ядлоўцу і асінавай драўніны. Некаторыя замест асінавай аддаюць перавагу яблыневай драўніне. Іншыя маюць схільнасць да драўніны грушы або і вішні. Але ёсць і тыя, хто змешваюць розныя тыпы драўніны, як мастакі-імпрэсіяністы фарбы на палітры. Аб'ядна́ўшы яблыню з асінай і дадаўшы некалькі галінак ядлоўцу, а часам і некалькі прыгаршчаў шалфею ці мяты, дасягаюць у галіне водару каўбас эфект, супастаўны з працамі Манэ або Сезана. Можна сказаць, што творчая свабода ў гэтым пытанні з'яўляецца экспанентнай для мастацкай спадчыны вёскі. У бедных у дровы гарадах гэтае мастацтва немагчыма падрабіць. І ў гэтых адносінах вёска можа быць творчай мадэллю для горада. Хоць у гэтым. Толькі што тут і там, што ж зробіш, лепш грызці кручаную каўбасу. Не рэзаную. Ну, што ж, можам толькі абліззацца. А шкадаванне ў гэтым пытанні даўно выказаў алень з бабулінага ландшафту. Толькі дзе падзелася тая мазня?! Адзін Бог ведае.

**Міраслаў ГРЫКА**



Вачыма еўрапейца

# Вяртанне прынцыпу сіметрыі?

Падчас апошняга ў 2015 годзе пасяджэння парламенцкай камісіі нацыянальных і этнічных меншасцей паўторна на гэты тэрмін абіраўся яе старшыня. Гэта адбылося таму, што неўзабаве пасля выбараў 17 лістапада памёр — нанавабраны на гэту функцыю — дэпутат Тамаш Тамчыкевіч. Па парытэце, абавязваючым у прэзідыумах камісіі ў гэтым тэрміне, функцыя шэфа тае — у цяперашні час з чатырнаццаці чалавек — камісіі належыць прадстаўніку Грамадзянскай платформы. Падчас апошняга пасяджэння старшынёй стала дэпутатка ад гэтай партыі, настаўніца, выпускніца польскай філалогіі з Катавіц Данута Петрашэўская, якая засядае ў Сейме ўжо трэці тэрмін і мае вопыт у працах камісіі. Камісія мае права абіраць трох віцэ-старшынь. У лістападзе сталі імі Станіслаў Гускоўскі з ГП (Легніца), у час папярэдняга ўрада намеснік міністра адміністрацыі і лічбавізацыі, адказны за праблемы меншасцей, і Шыман Гіжынскі з Права і справядлівасці (Чанстахова), дэпутат які мае мандат у чацвёрты раз. На апошнім пасяджэнні камісіі стала пытанне выбару трэцяга віцэ-старшыні. Дэпутат Гускоўскі прапанаваў Рышарда Галлю, адзінага прадстаўніка меншасцей (нямецкай; дэпутат беспартыйны) у гэтым скліканні Сейма і члена камісіі меншасцей ад двух тэрмінаў, то ёсць столькі, колькі засядае ў ніжняй палаце парламента. Абгрунтоўваў:

— У прэзідыуме нашай Камісіі, у адпаведнасці з традыцыяй, заўсёды былі прадстаўнікі нацыянальных меншасцей, бадай усіх прысутных у Камісіі (...). Спадар дэпутат Рышард Галля вядомы ўсім, хто з'яўляецца членам Камісіі або шматгадовым дэпутатам, са сваёй надзвычай спакойнага, прымірэнчага характару.

Прыемную атмасферу, якая суправаджала выбары трэцяга віцэ-старшыні, парушыла выказванне дэпутата Гіжынскага:

— Трохі збянтэжыла мяне гэтая рэкамендацыя ў плане прадстаўніцтва нямецкай меншасці, таму што адносна праблемы асяроддзяў вядома, што кожны кагосьці прадстаўляе, і гэта цалкам відавочна. У той час як афіцыйная спасылка на такую сітуацыю (што дэпутат Галля прадстаўляе нямецкую меншасць — М. Х.) неадкладна выклікае пытанне прынцыпу сіметрыі ў міжнародных адносінах, у адносінах паміж дзяржавамі, дзе такой сіметрыі на гэтым узроўні, вядома, няма. Таму я лічу, што тут ёсць нейкая метадалагічная праблема. Вядома, я не маю нічога супраць чалавека. Я супраць прынцыпу, які быў тут прыменены. (...) Вось чаму — з-за прынцыпу, а не з-за чалавека — устрымаюся ад голасу, падзяліўшы свой голас на палову.

Канчаткова за кандыдатурай дэпутата Галлі выказаліся трох членаў ГП і па адным з ПіС, Сучаснай і клуба Кукіз-15. Ніхто не быў супраць і двое ўстрымаліся ад голасу (акрамя дэпутата Гіжынскага, сам кандыдат). Пасля абрання новы, трэці віцэ-старшыня сказаў, спасылаючыся на заяву дэпутата Гіжынскага: «Я быў абраны ў польскі парламент і станаўлюся, спадар старшыня, свайго роду закладнікам. Я лічу, што з'яўляюся паўнавартасным грамадзянінам Польшчы, хачу ёй служыць і ўпэўнены, што буду гэта рабіць, таму хацеў бы дачакацца часу, калі б не выкарыстоўвалася такіх элементаў, а хутчэй абагачалася гэтым, што ўяўляе сабой нямецкая меншасць у Польшчы».

Дэпутат Шыман Гіжынскі (ПіС) тлумачыў: «Я свайго меркавання не змяню, таму што гэты голас падзяліў напалову, праўда? Гэтая палова стрыманая, наконт адмаўлення прынцыпу, а другая палова — пазітыўная, была пры вашай асобе, як выраз даверу да палітыка і надзейнага, адказнага чалавека. Такім чынам выказваю сваю думку цалкам публічна, без якога-небудзь апартунізму, згодную са сваімі перакананнямі і гэта ўсё што я меў сказаць».

На мой погляд, дэпутат Гіжынскі паслаў трывожны сігнал. Прынцып «сіметрыі ў міжнародных адносінах», то-бок, прыпадабненне сітуацыі м.інш. праваю да становішча польскай меншасці за мяжой, нельга перакладваць на стаўленне польскай дзяржавы да сваіх нацыянальных меншасцей. Вопыт апошніх 25 гадоў паказаў, што такая палітыка вядзе ў нікуды і на шкоду саміх меншасцей — карэнных грамадзян Польшчы, без адрознення, якой тычыцца меншасці. Таксама ўзмацняе дрэнную сітуацыю польскай меншасці за мяжой. У мінулыя больш чым два дзесяцігоддзі пазбягалі яе, хоць былі галасы, што яна неабходная, у першую чаргу, якраз у сувязі з нямецкай меншасцю. Ці гэты голас цяпер будзе актывізавацца?

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**



# Васямнаццаты „Дэбют”: Родная мова тут зацвіла

Завяршыўся чарговы — XVIII — агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы, сарганізаваны „Нівай” і Беларускім саюзам у Польшчы. На працягу конкурсу (пачаўся ў 1996 годзе) прыняло ў ім удзел 689 асоб. Сёлета 49 удзельнікаў даслала 51 камплект прац, разгляданых у дзвюх узроставых катэгорыях: I група — дзеці і моладзь пачатковых школ і гімназій і II — вучні сярэдніх школ і дарослыя. У апошнім выпуску прыняло ўдзел 18 творцаў з першай групы і 31 з другой, у тым ліку 15 дэбютантаў; адпаведна з першай — 10, з другой — 5. У чаргаовы раз прыслалі свае літаратурныя спробы вучні з Міхалова, у якім аднавілася навучанне беларускай мовы; з Міхалоўскай гміны прыйшлі працы ад 17 вучаніц з Пачатковай школы ў Міхалове — з горада і вёсак, адкуль прыязджаюць у гмінную школу вучні — у тым ліку ад трох сясцёр з Саколя — **Габрыелі, Наталлі і Вікторыі Госцік** (вершы дэбютанткі Вікторыі вылучаны), а паэтка з Новай Волі **Дамініка Сікора**, таксама дэбютантка ў конкурсе, са сваёй падборкай вершаў апынулася на першым месцы сярод удзельнікаў наймалодшай групы (яе вершы друкуюцца ў сённяшняй «Зорцы»). Другі прыз узяла таксама вучаніца з Міхалова **Клаўдзія Сікорская**. Падштурхнула сваіх падапечных да калектыўнага ўдзелу ў прэстыжным літаратурным конкурсе настаўніца беларускай мовы Эмілія Грыка, родам з Новага Ляўкова Нараўчанскай гміны. Сярод дарослых аматараў роднага слова з Міхалоўскай гміны заўважны быў почырк празаіка з Сушчы — селяніна **Аляксандра Анхіма**, які першы раз адважыўся паказаць сваю паэтычную прозу і яго спробы былі ацэнены журы (Надзея Артымовіч, Юры Плютовіч, Янка Трацяк) на другое месца ў другой катэгорыі. Трэба адзначыць гэтыя дзве гміны — Міхалоўскую і традыцыйна ўжо Нараўчанскую, з якой удзельнікі — вучні пачатковай школы і гімназіі, якіх заахвочваюць да пісання настаўніцы Анна Кандрацюк і Ліля Тарасэвіч, і надзейныя аўтары другой узроставай катэгорыі, дэбютуючыя нават і ў гадах, склалі адну трэць усіх удзельнікаў сёлетняга выпуску «Дэбюту». І амаль усе, хаця без пераможцы трэцяга месца гімназісткі **Магдаліны Бяляўскай** ды Галіны Бірыцкай з Плянты (якая трапіла ў бальніцу), дабраліся на ўрачыстае завяршэнне конкурсу 20 снежня на школьным аўтобусе, які збіраў па ўсіх вёсках Нараўчанскай гміны свойскіх пісьменнікаў — тут словы падзякі войту Мікалаю Павільчу, які дацаняе шчыры ўдзел у прапаведаванні роднага слова — «візітнай карткі» Нараўчанскай гміны. Родам з гэтай гміны (вёска Пасекі пад Семяноўкай) таксама паэтычны пераможца конкурсу **Мартына Ева Леанеўская**, маладая ветэрынарка, якая ў момант завяршэння конкурсу апынулася сапраўды далёка ад



Злева: Барыс Пятровіч Сачанка, Ян Чыквін і члены журы — Янка Трацяк і Ежы Плютовіч.

роднага краю — працуе яна цяпер валанцёркай аж у Тайландзе. Прымае яна ўдзел у «Дэбюце» ад пачатковай школы. Таксама не абмінаюць удзелу і прысылаюць свае тэксты з напісанага (бо пішуць не толькі «пад конкурс») людзі самай рознай прафесіі і іх творчасць прыносіць плён — **Ірэна Лукша** з Гайнаўкі — другое месца ў паэзіі, працуе ў бальніцы), Вера Масайла з Гайнаўкі — трэцяе месца ў паэзіі, настаўніца і аніматарка культуры, і **Валянціна Мядзведзь** з Беластока — вылучэнне за вершы, рабочая-пенсіянерка, і сялянка з Міхнаўкі **Вера Радзіванюк** — вылучэнне за прозу. Гаспадарыць на раллі Ала Ясвіловіч з Семяноўкі і Анна Садоўская з Новага Двара Гарадоцкай гміны, рукадзельнічаюць Кастусь Целушэцкі з Новага Ляўкова і Галіна Бірыцкая з Плянты. Студэнтам гісторыі і ўсходазнаўства, а неўзабаве таксама беларускай філалогіі, з’яўляецца пераможца конкурсу, дэбютант родам з Саколкі **Эдуард Гарштынскі.** Ягонае апавяданне «Край дзіцячых гадоў» задзівіла аднаго з членаў журы, які спадзяваўся пажылога, дасведчанага жыццёва, сівога аўтара, а ўбачыў маладога, з адмысловай сучаснай прычоскай юнака, які вельмі ўсхваляваны чытаў радкі: *Калі твая душа, будучы ў Шэоле, вякі будзе чакаць Месію і вечнага збаўлення, частка тваёй душы далей будзе тут, у Саколцы. Але гэта не ўсё, праўда, Давідку? Шукаеш сваіх каранёў. Ты не запусціў новых у Ізраілі і нідзе ў іншых месцах. Хочаш адшукаць іх там, дзе ты выпусціў свае першыя парасткі.* Тэкст маладога аўтара вельмі прадуманы, спелы, і напрацаваўся над ім ён, з вялікім узрушэннем аддаючы на ацэнку чытачам свае першыя спробы на беларускай літаратурнай мове, якую шчыра вывучае, далучыўшыся поўнасцю да беларушчыны і культуры ды спадчыны Вялікага Княства Літоўскага (падпісаўся *Ліцьвіном*). Сярод твораў, у якіх пераважала жыццёвае — захапленне родным краем, прыродай, развагі пра бытаванне ў цяперашняй сітуацыі, былі таксама вельмі патрыятычныя, адухоўленыя творы такіх аўтараў, як Веранікі Кардзюкевіч з Грабаўкі Супрасльскай гміны, вучаніцы Гімназіі свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку (*Радасць мая/ Любоў мая/ Айчына любімая.../ Мой усход сонца/ Мой захад/ Мая мова*), Наталлі Васько з Тарнопаля, гайнаўскай беллiцэісткі (*Гэта мы — абаронцы мовы!/ Мы будзем гаварыць/ будзем апавядаць/ пісаць і чытаць.// Будзем Цябе бараніць/ будзем вучыць дзяцей/ будзем ствараць творы/ будзем толькі для Цябе!*). «Верніца» з Нарвы, адзіная прадстаўніца сваёй малой айчыны — Вера Русіновіч родам з Катлоўкі, даклала сваю, хай і маленькую, цаглінку да гмаху слова на роднай гаворцы — *Побывала я на агульнапольскім конкурсе прозы і паэзіі беларускай./ У сэрцы маём появілася радосьць/ Як кветкі весну выглядаці пошлі./ І дзякую я нэ сказала. /Застрагло усё во мне. /Я ўзаўтра ешчэ раз успомінала/ З радосьцю сэрцу сказала/ Што родная мова тут зацьвіла/ Бо бацькі як жылі, усё говорылі/ Што Бог нам поможэ прожыць/ Усякое нэшчасце і беды, і горэ/ Нэ пропадэ і нэ згінэ роднэ слово.* На роднай гаворцы — гарадоцкай — выказаўся таксама лаўрэат спецыяльнай узнагароды за дэбют — Віктар Лукашэвіч, па прафесіі будаўнік, родам з Зубкоў. Ягоная шчырая паэзія, на жаль, не дапоўніцца новымі словамі — памёр ён пару тыдняў пасля таго, як прынёс у „Ніву” свае творы, эпічныя вершы пра мінулае. Сярод ягоных вершаў — таксама «Астатняя споведзь», быццам прадчуваў немінучае, хаця планаваў пабудову новага дома, цешыўся праўнукамі і меў яшчэ шмат месца на новыя вершы ў сваіх багата запісаных вялікіх сшытках. Шкода, што не адважыўся раней далучыцца да нашых тутэйшых пісьменнікаў і разам засесці ў роднай кампаніі і малых, і старэйшых аратых на беларускай ніве. І дай Бог, каб яны яшчэ, дэбютанты, у нас паяўляліся, і неслі на старонкі «Нівы» свае свойскія словы.

— Самы цяжкі шлях — працаваць у літаратуры, — гаварыла два тыдні раней у час працы камісіі старшыня журы Надзея Артымовіч. — Гэта значыць настойлівая самастойная праца, быццё ў культуры, і чытанне, чытанне, чытанне. Конкурс дае нагоду сканцэнтраваць свае сілы, дае магчымасць канфрантацыі. Гэта ёсць таксама і вялікая набілітацыя — сам друк твораў у „Ніве” з’яўляецца вялікай узнагародай. Чакае вас праца, чытанне, праца над сваім беларускім словам.

Сваімі ўражаннямі ад прачытанага непасрэдна перад сабранымі выказаўся сябра журы — літаратуразнаўца — Янка Трацяк з Гродна.

Прыемна адзначыць што на падсумаванні конкурсу прысутнічалі: прафесар Ян Чыквін — старшыня Літаратурнага аб’яднання “Белавежа”, дэлегацыя Саюза беларускіх пісьменнікаў са старшынёй Барысам Пятровічам Сачанкам, Уладзімірам Арловым, Валянцінай Аксак, Алесем Пашкевічам, Усеваладам Сцебуракам, Алай Петрушкевіч і музыкам Аляксандрам Памідоравым, які дзеткам праспяваў класныя калядныя песні ў бардаўскай апрацоўцы.

Конкурс „Дэбют” падтрымалі Міністр унутраных спраў і адміністрацыі, Маршалкоўская ўправа Падляшскага ваяводства, Беларускае Радыё Рацыя.

Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ



Удзельнікі са школы ў Нараўцы з Ліляй Тарасэвіч (другая злева)

## Калядны вечар у Пасольстве

18 снежня 2015 года ў Варшаве ў Беларускай зале Пасольства адбыўся традыцыйны вечар з нагоды надыходзячых Каляд і Новага года. Удзел у мерапрыемстве прынялі намеснік міністра замежных спраў Польшчы Конрад Паўлік, кіраўнікі шэрагу дыпламатычных місій, акрэдытаваных у Польшчы, прадстаўнікі праваслаўнага духавенства, польскага бізнесу, грамадскіх арганізацый, устаноў культуры, аб'яднанняў беларускай нацыянальнай меншасці, СМІ.



Узнагароджваецца Віктар Швед



Узнагароджваецца Аляксандр Баршчэўскі

Падчас афіцыйнай часткі мерапрыемства ва ўрачыстай абстаноўцы адбылося ўручэнне дзяржаўных узнагарод Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры Польшчы: ордэнаў Францыска Скарыны — Аляксандру Баршчэўскаму, прафесару, літаратуразнаўцы, грамадскаму дзеячу, а таксама Віктару Шведу, паэту, перакладчыку, грамадскаму дзеячу.

Госці вечара азнаёміліся са спецыяльнай выставай, падрыхтаванай Дзяржаўным музеем гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Рэспублікі Беларусь да 250-годдзя з дня нараджэння Міхала Клеафаса Агінскага, юбілей якога ўнесены ў спіс памятных дат ЮНЭСКА на 2015 год.

Музычным упрыгожваннем вечара стала выступленне струннага квартэта Акадэміі музыкі Рэспублікі Беларусь, у выкананні якога прагучалі творы Агінскага, Манюшкі, іншых кампазітараў, у тым ліку сучасных беларускіх.

Беларускі вечар у Пасольстве прайшоў у вельмі цёплай святочнай атмасферы. Госці вечара далі высокую ацэнку мерапрыемству, падкрэслілі важнасць арганізацыі падобных сустрэч, якія спрыяюць развіццю міжкультурнага дыялогу, добрасуседскіх беларуска-польскіх адносін.

poland.mfa.gov.by



# Камісія
## з новым віцэ-міністрам (2)

Падчас апошняга ў 2015 годзе пасяджэння Сумеснай камісіі ўрада і нацыянальных і этнічных меншасцей (СКУіНіЭМ) прагучалі горкія словы на чыноўнікаў, якія размяркоўваюць датацыі ў Міністэрстве ўнутраных спраў і адміністрацыі (МУСіА), а якія перайшлі туды ў рамках рэарганізацыі ведамстваў пасля змены ўрада разам з аддзелам меншасцей Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі. Крыўдаванне выказвалі галоўным чынам прадстаўнікі ромскай меншасці, але габрэі і беларусы, якія засядаюць у Камісіі, таксама наракканняў не хавалі.

Тыдзень таму ў сувязі з нарадай Камісіі мы нагадалі, між іншым, першыя заявы аб праблемах меншасцей новага намесніка міністра ўнутраных спраў і адміністрацыі, адказнага за супрацоўніцтва з меншаснымі арганізацыямі, яе сустрашыні Себасцьяна Хвалка. Нагадаем, што ў склад Сумеснай камісіі з 35 чалавек, кансультатыўнага органа пры прэм'ер-міністры, уваходзяць прадстаўнікі міністэрстваў і іншых цэнтральных устаноў ды прадстаўнікі (па адным або па двух) ад дзевяці нацыянальных і чатырох этнічных меншасцей ды кашубскай супольнасці, якая выкарыстоўвае рэгіянальную мову. Гэтыя меншасці пералічваюцца ў Законе аб меншасцях, прынятым парламентам дзесяць гадоў таму. Беларусаў прадстаўляюць зараз Ян Сычэўскі — старшыня Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства ды Славамір Іванюк — намеснік старшыні Беларускага саюза ў Польшчы.

### Вета паказала кірунак?

У кулуарах апошняга пасяджэння старшыня Сычэўскі, спасылаючыся на свае апасці ў дачыненні да палітычных змен таксама ў кіраўніцтве новага міністэрства, якое пасля некалькіх гадоў зноў курыруе меншасці, паведаміў журналістам:

— Я баюся, што пры цяперашнім палітычным ладзе, калі мы будзем выступаць у Міністэрства па розных пытаннях, вынік можа для нас быць адмоўны. Так было раней, калі ўладарыла ПіС, якое, як правіла, да меншасцей ставілася дрэнна. Што тычыцца майго вопыту як старшыні БГКТ, нават вельмі дрэнна, бо адзін з прадстаўнікоў гэтай улады хацеў нас татальна знішчыць. Я перакананы, што меншасці не будуць мець ніякага ўплыву на сваё становішча і іх голас не будзе істотна прымацца пад увагу. Гледзячы на тое, што адбываецца ў грамадстве, голас значнай яго часткі не мае ніякага ўплыву. Тым больш голас нацыянальных меншасцей які можа мець уплыў?

Сычэўскі таксама спаслаўся на размеркаванне грантаў на наступны год для падтрымкі дзейнасці арганізацый нацыянальных меншасцей. Як мы пісалі на мінулым тыдні, сума грошай, прызначаных для ўсіх арганізацый нацыянальных меншасцей у 2016 годзе складае больш за 15,5 мільёна злотых:

— Ужо некалькі гадоў у гэтых адносінах няма змен, а калі, дык яны мінімальныя, у сімвалічным выглядзе. Гледзячы на дафінансаванне мерапрыемстваў, якія арганізуюцца БГКТ, дык, дзякуй Богу, у агульным фінансаванне застаецца на тым жа ўзроўні, як у мінулым годзе. На працягу многіх гадоў, ад уступлення ў сілу Закона аб нацыянальных і этнічных меншасцях, у нас было шмат заўваг наконт недастатковага фінансавання важных культурных падзей беларускай меншасці, і не толькі, дарэчы, яе. З гэтых заўваг, нашых просьбаў нічога не атрымалася. Я маю на ўвазе такія мерапрыемствы як Міжнародная навуковая канферэнцыя «Шлях да ўзаемнасці», польска-беларускі міжнародны фестываль «Беласток-Гродна», некаторыя фэсты народнай культуры, фестываль нацыянальных меншасцей «Музычныя дыялогі над Бугам». Тым не менш, трэба зрабіць усё, каб не было яшчэ горш.

З іншага боку, Славамір Іванюк у размове з «Нівай», ацэньваючы міністэрскае размеркаванне датацый, сказаў:

— У цэлым, змен у параўнанні з мінулым годам — няма. Відаць стэрэатыпны ўжо падыход да праблемы. Большасць ініцыятыў, арганізаваных на працягу многіх гадоў шэрагам арганізацый нацыянальных меншасцей, была падтрымана. У цэлым, гэтых сродкаў недастаткова, і з гэтага пункту гледжання няма ніякага прагрэсу.

Іванюк падзяліўся з намі першымі ўражаннямі ад выступлення новага намесніка міністра, адказнага ў МУСіА за справы меншасцей:

— Такога невысокага рангу, у якім знаходзіцца цяперашні намеснік міністра адказны за меншасці, яшчэ не было. Мне здаецца, што ў цэлым ужо пазнаёміўся з праблемамі меншасцей, хоць і коратка знаходзіцца на гэтай пасадзе. Ён малады і камунікабельны, не настаўлены ўжо першапачаткова на нейкую барацьбу або спрэчкі. Ён зрабіў некалькі цікавых заяў, хоць яшчэ яны не абавязваюць. Тут ставіцца ўмова: як дазволяць бюджэтныя рэсурсы. Толькі тады мы пройдзем у рамках Сумеснай камісіі да дэталяў (гэта адбудзецца ўжо на наступным пасяджэнні 17 студзеня — М. Х.) і акажацца, якое на самой справе стаўленне цяперашняй улады да меншасцей. Генеральна, нейкі кірунак цяперашняй улады ў адносінах да меншасцей паказала вета прэзідэнта адносна ўнясення змен у закон аб меншасцях. Я не хацеў бы, каб гэта быў той напрамак.

### Ромскія скаргі

У ходзе сустрэчы з жорсткай пазіцыяй наконт спосабу размеркавання датацый выступілі прадстаўнікі ромскай меншасці. Багдан Траянак, старшыня Каралеўства фонду ромаў і Тадэвуш «Босман» Кшыжаноўскі, старшыня адной з ромскіх суполак з абурэннем заявілі, што адпаведная камісія, складзеная з прадстаўнікоў СКУіНіЭМ (па трох з кожнага боку), непасрэдна разглядаючая заявы на гранты, не кансультавала сваіх рашэнняў з ромскім асяроддзем:

— Абвінавачваю спосаб ацэнкі нашых заяў. Камісія па іх ацэнцы адкінула большасць з іх, не ведаючы гісторыі ромаў.

Яны ўспомнілі аб 130 пададзеных заявах, з якіх 40 былі разгледжаны станоўча:

— На этапе ацэнкі заяў з боку атэстацыйнай камісіі было нулявое супрацоўніцтва з намі.

Дабеслаў Жэмянеўскі, кіраўнік аддзела нацыянальных і этнічных меншасцей дэпартамента рэлігійных канфесій і нацыянальных і этнічных меншасцей МУСіА, а раней МАіЛ, спасылаючыся на гэтую сітуацыю, сказаў:

— Члены Сумеснай камісіі ў наступным годзе будуць мець поўны ан-лайн доступ да ўсіх заяў і карэспандэнцыі заяўнікаў.

Адназначна дадаў:

— Сродкаў на цяперашні час не будзе больш.

Ян Сычэўскі ў гутарцы з журналістамі:

— Выступленні з боку ромаў я ўспрымаю як вялікую небяспеку. Калі міністэрства будзе ўступаць і прымаць пад увагу тое, аб чым яны крычаць, прадстаўляючы 130 праектаў на фінансаванне з фонду ўсіх меншасцей, а мы дзвццаць пару і не атрымліваем дафінансавання на ўсе, а маюць яны ж дадатковыя 10 млн. злотых на цыганскую праграму, дык якія могуць быць гэтага вынікі? Я вельмі баюся, што міністэрства сур'ёзна паставіцца да іх прэтэнзій, прытым коштам фінансавання праектаў іншых меншасцей, у тым ліку беларускай.

### Перспектыва некалькіх гадоў

Камісія заслухала і абмеркавала таксама інфармацыю Зянона Буткевіча, дырэктара дэпартамента нацыянальных культурных устаноў Міністэрства культуры і нацыянальнай спадчыны, якая тычыцца ўстаноў нацыянальных і этнічных меншасцей. Ён нагадаў, што ў гэтым ведамстве ёсць сродкі, якімі могуць пакарыстацца арганізацыі меншасцей. Заахвочваў творцаў ад меншасных асяроддзяў карыстацца стыпендыяльнай праграмай гэтага аддзела. Сустаршыня камісіі Рафал Бартэк (нямецкая меншасць) у гэтым пункце падкрэсліў:

— Не атрымалася стварыць такі інструмент, каб узніклі культурныя ўстановы меншасцей. Ні адна такая ўстанова не ўзнікла.

Старшыня Сычэўскі выказаў перакананне, што ўзніканне культурных устаноў меншасцей, многіх або толькі адной, будзе мець сэнс, калі знойдуцца на яе дадатковыя грошы.

Намеснік міністра Хвалэк:

— Гэта пытанне таксама аб фарміраванні ў Польшчы ў апошнія гады ўсіх устаноў культуры. Стварэнне такога цэнтра адной меншасці прывядзе да пытання, што з іншымі. Цяжка сабе ўявіць, каб узнікла такая адна для ўсіх. Вялікіх дэкларацый у сувязі з гэтым не магу падаць. Сістэма ўшчыльнення дзяржаўных фінансаў у бліжэйшыя гады паўплывае таксама на рост сродкаў для нацыянальных меншасцей. Ці гэта наступіць праз год-два, я не магу сказаць. Тым не менш, у бліжэйшыя некалькі гадоў, па меншай меры, адзін такі цэнтр можа ўзнікнуць.

### Праграма залежная ад волі

Рафал Бартэк прадбачыў, нарэшце, працы на ўзроўні Сумеснай камісіі па падрыхтоўцы шматгадовай «Праграмы ў карысць нацыянальных і этнічных меншасцей і рэгіянальнай мовы», першапачаткова распрацаванай яшчэ ў 2012 годзе.

— Ідэя заключаецца ў тым, каб была такая цэнтральная, урадавая праграма, якая інспіруе дзеянні органаў мясцовага самакіравання ў карысць меншасцей. З яе дапамогай спрацавалі б механізмы для паўсюднай рэалізацыі ведаў аб меншасцях і інструментах рэгіянальнай падтрымкі меншасцей, таму што без іх немагчыма на практыцы рэалізаваць закон аб меншасцях. Рэалізацыя гэтай праграмы залежыць ад палітычнай волі ўрада. Рэалізацыя праграмы мела б каштаваць 20 мільёнаў злотых. Па палове фінансавалі б яе бюджэты дзяржавы і самаўрадаў

Кароткая дыскусія датычыла, сярод іншага, ацэнкі працы ўпаўнаважаных ваяводаў па справах меншасцей. У мінулым годзе па ўсёй краіне такія ўпаўнаважаныя атрымалі дванаццаць сігналаў канфліктных сітуацый датычных меншасцей, з якіх чатыры не пацвердзіліся.

— Таксама фінансавая дапамога для вырашэння такіх канфліктаў спатрэбілася б, — падкрэслівалі прадстаўнікі меншаснага боку.

Была звернута ўвага на неабходнасць «рэгіяналізавання дзеянняў упаўнаважаных» і іх больш актыўнага ўдзелу ў пераконванні самаўрадаў да ўвядзення назваў мясцовасцей на мовах меншасцей на тэрыторыі гмін, якія маюць такую законную магчымасць, як і да выкарыстання мовы меншасці ў якасці дапаможнай у гмінных установах. Пра ўпаўнаважанага падляшскага ваяводы Багдана Пашкоўскага — праз тыдзень.

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА



Частка ўдзельнікаў беларускіх майстар-класаў з пернікамі. На другім плане справа: Барбара Галёнка, дырэктар Аліна Гіншт, войт Люцына Смактуновіч і настаўніца Ева Герасімюк

# Пернікі на святочную ёлку

У Комплексе школ у Дубінах перад Раджджаством Хрыстовым арганізуюць супольную Куццю. Калі я прыбыў у школу, у вялікім калідоры, які адначасна выконвае ролю актавай залы, якраз адбывалася рэпетыцыя — вучні спявалі праваслаўную калядку. Пасля рыхтаваліся яны да выступаў з прадстаўленнем, якое мелі паказаць праз некалькі дзён падчас Куцці. Ужо красавалася часткова аздобленая велізарная ёлка, на якую вучні мелі яшчэ павесіць пернікі. У дзень майго прыбыцця навучэнцы беларускай мовы з класаў I-III і іх сябры, якія не ходзяць на заняткі беларускай мовы, прымалі ўдзел у беларускіх майстар-класах, падчас якіх вучыліся выпякаць пернікі паводле бабулінай рэцэптуры.

Вучні былі рады сустрэчы з Барбарай Галёнка, якую бачылі па тэлебачанні або на відэароліках у інтэрнэце. Вяла яна праграму ў рамках праекта «Беларускія смакі Падляшша», наведваючы родныя часціны вучняў Ліпіны, суседнюю Гайнаўку і іншыя мясцовасці Гайнаўшчыны. Там разам з мясцовымі жанчынамі знаёміла з рэцэптурамі і спосабамі выканання беларускіх страў.

— У Гімназіі ў Дубінах колькасць навучэнцаў беларускай мовы, у параўнанні да агульнага ліку гімназістаў, вялікая. У Падставовай школе ў Дубінах дзеткі ахвотна вучацца беларускай мове. Аднак мы хацелі б, каб іх колькасць пабольшала. Дзеля гэтага я запрапанавала арганізаваць супольныя заняткі для тых вучняў, якія вучацца беларускай мове і для тых дзетак, якія не ходзяць на заняткі роднай мовы. Можа астатнія дзеткі зацікавяцца беларускай мовай і схочуць у наступным годзе вучыцца беларускай мове. Пернікі, выканаными паводле мясцовай рэцэптуры, гэта вяртанне да нашых традыцый, — сказала войт Гайнаўскай гміны Люцына Смактуновіч, якая прысутнічала ў беларускіх майстар-класах разам з дырэктарам школы Алінай Гіншт, настаўніцай беларускай мовы Евай Герасімюк і школьным кухарам Грыгорыем.

— Барбару Галёнка мы бачылі як вяла тэлепраграмы аб беларускіх стравах. Мы запрапанавалі ёй правядзенне майстар-класаў па падрыхтоўцы пернікаў. Яна ахвотна прыняла прапанову і сёння нашы вучні ахвотна тут займаюцца. Бацькі тых дзетак, якія не ходзяць на ўрокі беларускай мовы, давалі пісьмовую згоду на ўдзел у супольных занятках па беларускай мове. Прынялі ўдзел амаль усе вучні класаў I-III. Дзеткам важна, што яны працуюць самастойна, а ўсе іх пернікі ацэньваюцца. Відаць, што вучням спадабаліся сённяшнія майстар-класы, — сказала дырэктар Аліна Гіншт.

Перад працай Барбара Галёнка запрэзентавала кароткія фільмы аб падрыхтоўцы беларускіх страў, знятыя ў рамках праекта «Беларускія смакі Падляшша». Вучні нават распазналі людзей з наваколля Дубін, якія прымалі ўдзел у праекце. Дзеткі пазнаёміліся з назвамі некаторых страў па-беларуску і на мясцовым дыялекце. Спадарыня Барбара паказала таксама невялікую разьбу Уладзіміра Наумюка і саломаплядзенне Пятра Леанюка, расказвала як размалёўваюцца велікодныя яйкі.

— Дзеткі такім чынам вучацца нашым традыцыям. Павінны яны ведаць сваё мінулае, дазнацца аб жыцці продкаў. Бачу, што дзеткі разумеюць па-свойму, некаторыя прабуюць гаварыць на сваім дыялекце. Частка дзетак, якія прымалі ўдзел у майстар-класах, вучыцца беларускай мове і ўмеюць ужо крыху гаварыць на літаратурнай мове, — заявіла Барбара Галёнка з Дубіч-Асочных, выпускніца Гайнаўскага белліцэя. — Калі я даведалася, што шукаюцца асобы да праекта «Беларускія смакі Падляшша», паехала на размову і мне запрапанавалі весці праграмы. Сам праект «Беларускія смакі Падляшша» мне спадабаўся і я была вядучай 11 відэасюжэтаў. Пабывала я ў навакольных мясцовасцях і ў больш аддаленых ад Дубін вёсках. Спаткала цікавых людзей, сярод якіх быў народны разьбяр Уладзімір Наумюк, ці Пётр Леанюк, які займаецца саломаплядзеннем. Ад жанчын навучылася я рыхтаваць нашы беларускія стравы. У школе таксама цікава было выконваць святочныя пернікі, якія пасля вучні цудоўна аздобілі. Я рада, што дзеткам спадабаліся мае аповеды аб праекце «Беларускія смакі Падляшша» і відэасюжэты, якія я ім паказала. Вучням цікава таксама паглядзець каробачкі спадара Леанюка, дакрануцца да саломы, якой некаторыя нават у руках не трымалі.

Дзеткі і дарослыя спачатку рыхтавалі цеста, затым вырэзвалі з яго постаці анёлкаў і людзей, а пасля пяклі пернікі. Кожны вучань аздабляў пернікі паводле свайго ўяўлення. Аздобы ацэньваліся камісіяй.

— Відаць, што ў нашых дзетак цікавыя задумы, што бачна па ўпрыгожаннях пернікаў усіх вучняў з трох класаў. Дзеткі першага класа вельмі добра справіліся з задачай і таксама вельмі прыгожа аздобілі пернікі, — заявіла войт Люцына Смактуновіч.

Войт дабавіла, што ў іншых мясцовасцях арганізуюцца майстар-класы для дарослых. Апошнім часам праходзілі яны ў Старым Беразове, Хітрай і Новым Беразове. У Ліпінах аб'яднанне «Крыніца» ладзіць заняткі ў гміннай святліцы. У Навасадах з прыцягненнем вонкавых сродкаў у гэтым годзе была збудавана прыгожая дзіцячая пляцоўка, пра якую паклапаціўся Фонд «Падляшша» са Звадзецкага. У Гмінным цэнтры культуры ў Дубінах з выкарыстаннем вонкавых сродкаў багата была абсталявана адрамантаваная зала. Прадбачваецца ажыццявіць праект па гісторыі Дубін.

— Гэтыя пернікі мы павесім на нашай ёлцы. Будуць там красавацца падчас супольнай школьнай Куцці. Сёння яшчэ адбываліся рэпетыцыі, вучні спявалі калядкі і рыхтавалі апошнія элементы дэкарацыі актавай залы перад сустрэчай, — сказала дырэктар Аліна Гіншт.

Майстар-класам асабліва рады былі дзеткі, якія абменьваліся ўражаннямі ад супольных заняткаў.

— Былі цікавыя заняткі. Нам дазволілі выконваць пернікі, мы аздаблялі іх. На фільме мы бачылі паню Басю, якая пасля цікава расказвала нам пра розныя стравы і з намі працавала, — заявілі вучні трэцяга класа.

— Я думаю, што нашым вучням спадабаліся сённяшнія заняткі. На закрытых занятках беларускай мовы наша моладзь вучылася пячы бліны, дранікі. Раней мы на ўрокі беларускай мовы запрасілі спадарыню Веру Масайла, якая вядзе тэатральны гурток «Званкі» ў Гайнаўскім доме культуры. Яна расказвала нам пра тэатральную актыўнасць яе вучняў і пакінула нам сцэнары прадстаўленняў на беларускай мове. Нашы вучні выступалі на беларускай мове падчас школьнага мерапрыемства ў мінулым годзе. Сёлета таксама хочам падрыхтаваць беларускую пастаноўку, — расказвала настаўніца беларускай мовы Ева Герасімюк. — Падчас заняткаў беларускай мовы мы пры дапамозе інтэрнэту знаёмімся з беларускай культурай і гісторыяй. У нашай школьнай беларускай ізбе ёсць беларуская экспазіцыя — з ручнікамі, вышыванымі карцінамі, гаршкамі і прыладамі працы. Нашы вучні знаёміліся з экспазіцыямі ў Беларускім музеі ў Гайнаўцы, хочам наведаць Студзіводскі музей і пазнаёміць дзетак і моладзь з фалькларыстам і гісторыкам Дарафеем Фіёнікам. Прадбачваем яшчэ арганізаваць спатканне з народным творцам. Вучні будуць рыхтавацца да дэкламатарскага конкурсу «Роднае слова». У мінулым школьным годзе на гэтым конкурсе наша вучаніца Віялета Трашчотка атрымала вылучэнне. «Ніву» і «Зорку» я прыношу вучням на ўрокі і мы чытаем выбраныя тэксты. У наступным школьным годзе будзем рыхтавацца да прадметнага конкурсу па беларускай мове.

Нядаўна вучні Комплексу школ у Дубінах прынялі ўдзел у музычных майстар-класах у Цэнтры адукацыі і прамоцыі беларускай культуры «Шчыты».

— Музычныя майстар-класы вяла Ілона Карпюк-Дамброўская з беларускага гурта «ILO&Friends». Заняткі нашым вучням вельмі спадабаліся. Са Шчытоў наша моладзь вярнулася з падарункамі. Прадбачваем прадаўжаць супрацу з Цэнтрам «Шчыты». У нашай школе ў рамках праекта было наладжана абучэнне па кіназдымцы і з гэтага часу ад школьных мерапрыемстваў застаюцца фільмавыя сюжэты, якія запісвае моладзь. Нашы вучні ўзнагароджваліся ў конкурсе «Пазнай Беларусь». З дапамогай Культурнага цэнтра Беларусі ў Варшаве мы арганізавалі паездку да Памесця Дзеда Мароза і ў Камянец. Можа ўдасца арганізаваць яшчэ паездку ў Мінск, — сказала дырэктар Аліна Гіншт.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

## Супольнае калядаванне

20 снежня ў святліцы ў вёсцы Чаромсе адбылося супольнае калядаванне. Ініцыятарам мерапрыемства была мясцовая вакальная група пявунняў і жанчыны з царкоўнага хору. Да ўдзелу ў імпрэзе запрасілі яны мастацкія калектывы „Родына" з Дубяжына, „Гілачку" з Чаромхі-Станцыі і таксама жыхароў вёскі.

— Гэта цыклічная імпрэза, якую ладзім ад некалькіх гадоў, — гаварыла солтыс Яўгенія Кердалевіч, заадно ініцыятарка і арганізатарка імпрэзы. — З „Родынай" і „Гілачкай" ладзім сяброўскія кантакты, арганізуем супольныя канцэрты. У мінулым годзе, напрыклад, самадзейнікі з Дубяжына запрасілі нас на „Пячэнне бульбы", сёлета гасцюем іх на „Супольным калядаванні".

На сустрэчы, якая пачалася ў 15 гадзін, сабралася група калядоўшчыкаў. Мерапрыемства ўдастоілі святары а.а. Юры Пліс, Мікалай Беламызы і Аляксандр Юрчук з Чаромхі-Станцыі. Значнае зацікаўленне калядаваннем праявілі мясцовыя жыхары. Канцэрт пачаўся пры шматлюднай публіцы і доўжыўся больш за гадзіну часу. Кожны з гуртоў прэзентаваў па тры калядкі. Першым выступіў калектыў з Дубяжына з васямнаццаці чалавек пад кіраўніцтвам Альжбеты Томчук. Праспявалі яны калядкі „Нова радасць стала", „Радуйтеся" і „У Вифлиеме новына". Пявунні з вёскі Чаромхі выканалі „У місты Вифліеме", „Там высоко ў сыним нэбу" і „Нова радасць стала", а „Гілочка" ў сваю чаргу — "Зіронька ясна", „Добрый вэчір Тобі" і „Сыдыт Мыкола". Варта адзначыць, што большасць прэзентаваных калядак пачуў я ўпершыню. З маёй маладосці помніцца адно калядка „Нова радасць стала". Пасля выступу „Гілачкі" на сцэну зайшлі калядоўшчыкі ў народных касцюмах і з гвяздай выканалі некалькі мясцовых калядак. Мерапрыемства закончылася традыцыйнымі віншаваннямі на „многае лета". Святочныя і навагоднія віншаванні пераказалі таксама госці з Дубяжына і „Гілочка".



Гурт „Родына" з Дубяжына

Арганізатары запрасілі прысутных на другую частку сустрэчы — супольны пачастунак пры шведскім стале. Варта адзначыць, што на гэтую мэту фінансавыя сродкі арганізатары атрымалі ад Гміннага асяродка культуры ў Чаромсе і з добраахвотнай складчыны жыхароў вёскі. Смакавітыя посныя стравы падрыхтавалі арганізаткі — Яўгенія Кердалевіч, Надзея Унучка, Анна Боцюк, Надзея Дудэль, Надзея Шатыловіч і Валянціна Дудэль. Усяго было ўдосталь. Сталы, проста, угіналіся ад яды і напіткаў. Ды і атмасфера мерапрыемства была сімпатычная, сяброўская, праходзіла ў святочным настроі. Адчувалася, што вось-вось Божае Нараджэнне. І за гэтую сімпатычную сустрэчу належыцца арганізатарам шчырая падзяка!

Уладзімір СІДАРУК



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Творы крохкіх, чуллівых сэрцаў



Дамініка Сікора



Вучні з Міхалова з настаўніцай Эмілай Грыка

Першая лаўрэатка Дамініка Сікора прачытала свой верш «Вайна» на ўрачыстым падвядзенні вынікаў XVIII Агульнапольскага конкурсу беларускай паэзіі і прозы, якое адбылося 21 снежня г.г. у Беластоку.

— Адкуль думка, — пытаем у Дамінікі, — каб выказацца на тэму вайны?

— Гляджу ў тэлебачанні на тое, што адбываецца ў свеце, і баюся... — кажа Дамініка. — Усё гэта быццам набліжаецца да нас...

— Што Цябе палохае?

— Што ўсё добрае можа скончыцца, знікнуць. Тое, што ходзім у школу, сустракаемся з сябрамі, што можам мець свае планы і захапленні.

Дамініка ніколі не думала, што пераможа ў конкурсе, ды ніколі не думала, што можа быць такой здольнай паэткай. Поспех быў для яе поўнай нечаканасцю.

— Мару, каб у дарослым жыцці стаць лекарам ветэрынарыі. Хачу лекаваць жывёл, якія жывуць побач з намі, а таксама лясных звяроў.

Дамініка жыве ў сяле Новая Воля. Ад трох гадоў вывучае беларускую мову ў школе ў Міхалове. Там знаёміцца з асновамі пісьменнасці і фальклорам. Апошнім часам захапіла яе экскурсія ў Беларусь. Пра гэта яна пісала разам з сяброўкай Клаўдзіяй Сікорскай у „Зорцы".

— Мая мама з Беларусі, — дадае гімназістка, — таму гэтая ўзнагарода мяне цешыць дадаткова, яна для мяне вельмі важная.

Дасланыя на конкурс творы ацэньвала камісія ў складзе: паэты Надзея Артымовіч і Юры Плютовіч ды літаратуразнаўца Янка Трацяк. У гэтым годзе нечакана першыя месцы ўзялі вучні з Міхалова. Нас уразіла паэтычная кампанія з Нараўкі, але пра гэта ў наступных нумарах „Зоркі".

А вось вынікі сёлетняга конкурсу:

Першае месца ў паэзіі атрымала **Дамініка Сікора**, другое — **Клаўдзія Сікорская** з Новай Волі. На трэцім месцы апынулася **Магдалена Бяляўская** з Нараўкі. Вылучэнне атрымалі **Вікторыя Госцік** з Міхалова і **Карнелія Барэчка** з Нараўкі. Віншуем!

**ЗОРКА,**
**фота Ганны КАНДРАЦЮК**

*Дамініка СІКОРА*
*Новая Воля, ПШ у Міхалове*

## Гульня

*Жыццё гэта гульня, распачатая нашым першым крыкам,*
*Толькі ад цябе залежыць як будзеш гуляць.*
*Жыццё гэта нястомная барацьба са сваім сэрцам,*
*Са сваім сэрцам... дзякуючы якому жывеш,*
*Са сваім сэрцам.... крохкім і чуллівым,*
*Са сваім сэрцам.... якое іншыя раняць.*
*Жыць хочаш доўга, але гэта невядомае,*
*Гуляеш пакуль не будзе канца.*
*Гэта гульня, трэба гуляць.*
*Жыццё гэта пагоня за ўцякаючымі марамі.*
*Перашкоды сустракаюць,*
*Аб пачвар рогі патыкаешся,*
*Хаця цярпіш паражэнне,*
*Гульня далей ідзе,*
*Назад нельга пайсці.*
*Інструкцыю шукаеш?*
*Сяброў набывай, ворагаў разганяй,*
*Шчаслівы будуй свой дом,*
*Мей мэту жыцця,*
*Але не забывай ніколі,*
*што шчасця ў жыцці даволі.*

## Вайна

*Ці ты ведаеш моц вайны,*
*Ці ты ведаеш што яна нясе?*
*Толькі страх, сум і боль.*
*Але сустрэнеш яе ў свеце.*
*Ходзіць па зямлі,*
*Па гарадах і вёсках,*
*Пагрозу, забойства нясе,*
*Усім светам трасе,*
*Нішчыць дамы і лёсы.*

ДОБРЫ ДЗЕНЬ, ЗОРКА!

Я хачу некалькі слоў напісаць пра сябе.

Мяне завуць Оля Чабай. Дзявятага снежня мне споўнілася дванаццаць гадоў. Жыву ў вёсцы Новае Беразова. Мне падабаюцца ўрокі беларускай мовы і інфарматыкі. Я люблю людзей добрых, мілых і вясёлых. Люблю хадзіць у сукенках. У хаце дапамагаю маме рыхтаваць стравы. Люблю слухаць музыку, спяваць і гуляць у камп'ютарныя гульні. Я вучуся ў шостым класе Пачатковай школы ў Новым Корніне. Выпісваю «Ніву». Чытаем яе ў хаце.

Новае Беразова, 14 снежня 2015 г.

АД РЭДАКЦЫІ: Оля, дзякуем за твой цёплы, прыгожы ліст. Радасць падвойная, даўно ўжо не пісалі вучні з Тваё школы. Віншуем таксама Цябе з Днём народзінаў і чакаем наступных допісаў.

## УВАГА КОНКУРС! № 01-16

**Загадкі з роднай хаткі**

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 17 студзеня 2016 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Выглядам — як месяц маладзік,**
**носік мае, нібы цвік.**
**Па небе цёмненькім гуляе**
**Раз кліча хмаркі,**
**іншы раз радасна ўздыхае.**
**(адгадайце якая гэта літарка)**

**Адказ на загадкі № 49-15: коцік, сняжынка. Узнагароды, кубкі з лагатыпам Радыё Рацыя, выйгралі Тамаш Ваўжэнюк з Нарвы, Марлена Лабаноўская з Бельска-Падляшскага, Наталля Нікіцюк і Антаніна Варанчук з Арэшкава; а настольныя гульні Сувальскага ландшафтнага парку — Ігар Кардаш з Нарвы і Іаанна Нікіцюк з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**

# МНЕ НЕ ХАПАЕ ДЗІЦЯЧАЙ ТВОРЧАСЦІ

*У школе ў Гарадку — новая валанцёрка з Беларусі, **спадарыня Веранiка.** Усе спадзяюцца на добрае супрацоўніцтва і сяброўства. Шлях для валанцёраў з Беларусі працерла **Іна ЗУЕВА**, з якой мы моцна пасябравалі і зжыліся. Зараз з дапамогай інтэрнэту мы правялі з ёй размову.*

**Вучні з Гарадка:** — *Ці год працы ў Гарадку неяк паўплываў на змены ў Тваім жыцці?*

**Іна Зуева:** — У Гарадку я пазнаёмілася са сваімі магчымасцямі. На гэта паўплывалі гарадоцкія людзі — адкрытыя і душэўныя. А тое, што здарылася са мной пасля майго вяртання на Радзіму, было лагічным вынікам дзейнасці ў Гарадку.

**В:** — *Дзе цяпер працуеш?*

**ІЗ:** — Так здарылася, што я папала на працу ў Нацыянальны музей мастацтва, дакладна ў яго філіял, у Дом-музей Ваньковічаў. Сам музей, у першую чаргу, прысвечаны беларускаму мастаку першай паловы XIX стагоддзя і сядзібнаму інтэр'еру таго часу. Аказалася, што дзейнасць прадстаўнікоў роду Ваньковічаў цесна звязана з Польшчай. Таму я працягваю „польскую прыгоду", і калі можна так сказаць, цікаўлюся праніканнем польскай і беларускай культур.



**В:** — *Ці часам пра нас думаеш, успамінаеш?*

**ІЗ:** — Мне не хапае тых дзяцей і настаўнікаў, з якімі на працягу цэлага года мы разам працавалі. Не хапае атмасферы школьнай працы, разнастайных мерапрыемстваў, а асабліва дзіцячай творчасці, якая давала мне штуршок для ўласнай дзейнасці.

**В:** — *Ці далей спяваеш і малюеш?*

**ІЗ:** — Пакуль што не, бо не хапае мне часу. Спрабавала спяваць у хоры, але паколькі працую ад ранку да вечара, трэба было выбіраць. Працягваю вывучаць польскую мову, з чаго таксама вельмі задаволена.

**В:** — *Чаго Табе найбольш не хапае?*

**ІЗ:** — Людзей, прыроды і асаблівай атмасферы. І, вядома, Дома культуры, куды я заўсёды магла прыйсці і штосьці зрабіць са спадарыняй Марысяй. Гэта быў адзін з найлепшых і яркіх перыядаў у маім жыцці. Наш супольна праведзены час заўсёды буду ўспамінаць з цеплынёй у сэрцы. УСІХ ЦАЛУЮ і АБДЫМАЮ!!!!

## Вершы Віктара Шведа



### Пацешыла

Сынок у грозным відзе,
Пагражае адчай:
— Калі ўрэшце прыйдзе
Святы Мікалай?

Азвалася матка:
— Мілы сынку мой,
Калі толькі татка
Вернецца з піўной.

### Святочная вячэра

Сям'я чакае зоркі
Перад святочнай вячэрай.
Нехта стаіць на падворку,
Застукаў ён раптам у дзверы.

— Я змораны прахожы,
Маеце мне месца можа?
Пачуў ён нешта такое:
— Павінна быць месца пустое.

*Магдаліна БЯЛЯЎСКАЯ*
*Гімназія ў Нараўцы*

### Няма

*Няма секунд...*
*Нама мінут...*
*Няма гадзін...*
*Няма дажджу без хмараў*
*і зялёнай травы без сонца.*
*Няма ўсмешкі без усмешкі*
*і слёз без слёз.*
*Няма жыцця без жыцця.*
*А мяне няма без цябе.*
*Ёсць толькі свет,*
*у якім замкнутае „няма".*

## ЦІ ЁСЦЬ ПРАЎДА У СВЕЦЕ?

*(беларуская казка, пачатак у № 51)*

— Чакай! — сказаў чалавек. — Сабака судзіць не па праўдзе — ён сам пакрыўджаны. А такі суддзя несправядлівы. Пойдзем далей, папытаемся яшчэ ў каго-небудзь.

— Добра, — згадзіўся воўк, ну, пойдзем. Толькі, хутчэй! Мне няма калі з табою судзіцца. Я галодны, што кішкі марша іграюць!

Пайшлі далей. Сустракаюць лісіцу.

— Рассудзі нас лісічка, — просіць чалавек.

— А што ў вас за суд?

— Дык вось, справа якая. Капаў я карчы на лучыну ў лесе. Бачу — бяжыць воўк. «Ратуй мяне ад стральцоў, — просіцца. — Я табе за гэта лісіцу на каўнер прыцягну». Я выратаваў яго — у мяшок схаваў. А як мінула бяда, дык воўк мяне з'есці хоча. Скажы сама, ці ж гэта па законе? Хіба няма праўды на свеце?

Падумала лісіца і кажа:

— Не магу я вас рассудзіць, не ўбачыўшы як яно ўсё было. Трэба на месцы дазнанне зрабіць.

— Добра, рабі сваё дазнанне, — згадзіўся воўк. — Толькі хутчэй! Мне няма калі доўга чакаць. Вар'яцею ад голаду!

*(працяг будзе)*

## Польска-беларуская крыжаванка № 01-16

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 49:**

Паром, кола, табун, карусель, кукуруза, сок, Кася, страва. Пік, куст, дакор, тур, пасуда, бэз, кулак, конь, Ас, таўсцяк.

Узнагароды, эксклюзіўныя альбомы Ландшафтнага Сувальскага парку «Рыбы» і «Птушкі», выйгралі **Сара Скаўронская** з Беластока, **Ігар Кардаш** з Нарвы, **Іаанна Рута** з КШ № 3 у Гайнаўцы, **Зузанна Асіняк, Аня Рушук** з Новага Корніна. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Parada | | Wiąz / Szum | | | | Tył / Konik | | Parasol / Prysznic | |
| | | | Okazja / Kolonia | | | | | | |
| | | Dach | | Opona | | Nur / Ciek | | | |
| | Duch / Mak | | | | Cisza / Ład | | | | |
| Motylek / Kochanek | | | | | | | | Nie | |
| | | | | | | | No | | |
| | | Prysznic / Wers, strofa | | | | Suszarka | | | |

**На памяць УСІМ замучаным, расстраляным, спаленым, вывезеным у час вайны — на 70-годдзе яе пераможнага заканчэння.**

Марыя САШКА

# GRANDE VALSE BRILLANTE

частка II

Праваслаўны айцец Хрыстафор — задзівіў усіх!.. Меснасць і ўладу!... Без слова пакінуў царкву, не прыйшоў у нядзельку на Службу, ключы аддаў званару Канстанціну!.. Дзесь праз тыдзень — загудзела навінай звестка (праўдай — няпраўдай?): бацюшка падаўся быў у Белавежу, да нейкага начальства, за новай — нецаркоўнай работай, дзе сівы палкоўнік сказаў яму: — Мы тут всего два месяца — за какое время ты н-а-с продашь, отче святой, если ты полжизни прослужил во храме и тут же, что-ты учуял такого? Бросил своё святое дело служения? Пошёл прочь, и-у-д-а! Серебрянников ищешь?!.

Айцец Хрыстафор спакаваўся, падаўся да сястры ў Ціхаволю, за Масевам...

Уладыка Гродзенскі паспешна назначыў сюды новага настаяцеля, Андрэя, які пасяліўся за рэчкай у Янове, бо плябанія, тым часам, стала ўжо «красным уголком», дзе гаспадарылі цяпер, як у святліцы, Васіль і Пракоп з сынамі... Гэта былі вядомыя ўсім «палітыканы», увесь час сідзячыя, дасюль, у якіхсьці «камітэтах»; яны «гулялі» ў нейкія грамадскія «кружкі», арганізавалі сустрэчы, танцы, вечарыны. Няраз іх «запрашалі» на паліцыю, няраз саджалі ў арышт, а яны ўсё навучалі-спявалі: «Весь мир насилия мы разрушим до основания, а затем мы наш, мы новый мир построим: кто был ничем, тот станет всем»... Самі яны мелі гаспадаркі, кароў ды коней, чым займаліся іх жонкі і сыны, бо «сацыялісты» былі калі не ў казематцы — то на сходах-з'ездах-згрупаваннях у Беластоку, Гродне, Брэсце, Баранавічах, Пінску... Гатовілася ім і Картуз-Бяроза, ды вайна прагрымела...

З-пад царквы і касцёла, з рэпрадуктараў гудзелі-грымелі-звінелі-разносіліся песні пра Кацюшу з крутога берага; што ўжо «утро красит нежным светом стены древнего Кремля»; што «мы светлый путь куём народу, свободный путь для всех куём», што «нет нам преград ни в море, ни на суше, нам не страшны ни льды, ни облака; пламя души своей, знамя страны своей мы пронесём через миры и века»; што цяпер „в деревне и веселье и краса, и завидуют деревне небеса»; «орлёнок, орлёнок, идут эшалоны, победа борьбой решена, у власти орлиной орлят миллионы, и нами гордится страна...»

Вось табе — цэлая гордасць і слава! — так-так — стаяць ужо і тут эшалоны! На ўсход!.. Павозкі Васіля і Пракопа пацягнулі на станцыю надляснічага з Броўска пад Грушкамі, нейкім цудам-Ласкай Божай! — пакінуўшы яго маці-старушку, як тут гаварылася: «Нашу Паню», якую ўсе тут вельмі паважалі і шанавалі, дародную шляхцянку велічнага росту і целазлажэння, а з ёю — другі Цуд Хрыстоў! — дзве яе ўнучкі!.. Як цыганскі табар, «сацыялісты» павалаклі таксама і гаёвага, з цэлым вывадкам чатырах дзяцей-боблехаў, з цяжарнай Сіманіхай, якая, ужо ў Карагандзе, новую сваю двайню потым закапала... Сіману — гаёваму — сказалі: «Что же ты, белогвардеец окаянный, польским панам служил?!. — А я ж такі самы польскі пан, ды толькі праваслаўны! Нас тут такіх, наўкругі, сотні ды сотні! Тысячы! Нашы продкі тут ад вякоў! Мы тут Вялікае Княжаства Літоўскае, са сталіцай у Вільні!.. — Теперь тут, задрыпанец, ты панский, холуй польский! — запомни! Здесь теперь Великое Княжество-Царство-Господство С-о-в-е-т-с-к-о-е!.. И иному — другому — НЕ бывать!..

Праз некалькі дзён, калі «Нашу Паню» перасялілі ў прышкольны будынačак, у надлясніцтва пераехалі, з жонкамі, Васіль і Пракоп, гаспадаркі свае пакінуўшы сваім сынам. Жонкі пярэчылі, плакалі: «На чужое, сваё маючы? Як зладзеі-канакрады! Пакарае Гасподзь за Сімана з дзяцьмі-гарохамі» — За «Нашу Паню» — душу святую!..» Мужыкі не слухалі! Падзялілі паміж сабой «панскую» мэблю, другое ўсё хатняе, у хлявах — коней, кароў, свіней, авечак, курэй, гусей, качак, сабак нават...

З Дворнага Грудка павезлі ўсіх ад пана Сакалоўскага, знакамітага ў акрузе і паважанага інжынера-аграном. Ад доктара Крыньскага забралі паўхаты... Мястэчка, мірны прыпушчанскі гарадок анямела — хто будзе наступны ў дальнюю дарогу?.. Ці гэта толькі Васіль і Пракоп аб усім «дакладваюць»? А-д-к-у-ль усе гэткія звесткі, падрабязнасці?..

Гудзелі радыё-точкі, завешаныя нават на дрэвах, празваныя адразу «калхознікамі», крычалі песні і маршы — «Вперёд, за Власть Советов!» У хатах пачаліся сваркі, бойкі, сынь гразіліся на бацькоў, за баркі браліся... Колік Сцяпанаў кінуў бацьку аб парогпадлогу, калі той загарадзіў яму дарогу ў клуб на танцы!.. — Новае жыццё, бацька, настала, ты што, дурань бязмозглы? — крычаў сын.

* * *

«Красный уголок» выбіраў моладзь — дэлегатаў на з'езд у Мінск. Гаварылася з радасцю, што адтуль у Беласток прыязджалі: Янка Купала, Кандрат Крапіва, Змітрок Бядуля. А адкуль радасць і чаму, чаго яны тут, у канцы, хацелі, Васіль і Пракоп не гаварылі... Сказалі толькі, што гэта былі паэты, вершы прыгожыя пішуць, і што яны тут прыязджалі да беларускага народу, як пасланнікі новага жыцця, а хто тут — гэты «народ» — да канца не выТлумачылі...

Зранку дэлегаты (сярод іх былі абодва сыны, Васілёвы і Пракопавы), гэтак чалавек сем, адзелі свае вышываныя кашулі, элегантныя паўшубкі, бліскучыя боты-афіцэркі, шапкі цёплыя бараніцы нахлабушчылі, з гармоней адправіліся на станцыю, у поезд на Ваўкавыск — Мінск уладкаваліся, у спальным вагоне...

Праз дзень другі-трэці, яны зноў ішлі, цяпер вярталіся па вуліцы Ляўкоўскай — што вядзе пачатак ад станцыі, але перабіраліся нейк ціха, тайком, за хлявы-клуні наровячы, маўклівыя, пераляканыя, напалоханыя, трывожныя... Калі іх хто пытаў — яны моўчкі з-н-і-к-а-л-і!.. Потым раз'ехаліся (шапталіся суседзі), кудысь у свет; на станцы білеты бралі на поезд хто ў Бельск, хто ў Чаромуху ці Баранавічы, а нават у Ліду, Вільна і Пінск!.. Цішком хадзілі, сланяліся як цені іх бацькі, не ўдаваліся з нікім у размову, відавочна чагось баяліся — трывожна аглядваліся... І грохнула, шаптаная паміж сваімі, звестка...

У Мінску спаткалі іх, на шчасце, старэйшыя людзі. Глянулі — а перад імі: польскія, як лялькі раздзетыя «памешчыкі», у бліскучых — як у царскіх, калісь, генералаў — ботах-афіцэрках, нагавіцах-галіфэ, кашулях, гальштуках, шапках аўчынных, капелюшах!.. — «Хлопчыкі, а ну — у н-о-г-і! Дамоў, назад! Гайда! — пакуль вас не пасадзілі-арыштавалі!.. Тут жа мае быць з'езд моладзі рабочых і сялян, дзеткі! — сказаў нейкі стары парцеец. — Ну-й штошто спалучэнне Заходняй Беларусі? Вы ж як паны польскія-шляхта! Дахаты б-я-г-о-м! Па дарозе мяліцеся!.. Што нібы вы беларусы? Вы б-е-л-а-р-у-с-ы? З якіх пор? Нацыя? Тут у нас і-н-т-э-р-н-а-ц-ы-я! Сынкі вы мае-дуралеі! Тут усё — «о-б-щ-е-е»! Савецкае!.. Вы ж нават не ў камсамоле, галубяты вы мае! Пушаняты бясьпёрыя! Ніводнага калхоза ў сябе не маеце!..»

На з'езд зляцеліся — гасцінцаў навезлі валізкамі, бачу ж — саланіна, каўбаса, кумпякі, кашанка, самагонкі бутэлькі!.. Д-а х-а-т-ы, моладзь дурнаватая! Няўжо ніхто вам і не сказаў, што мы тут — ад вякоў! — гэтага ўсяго і не нюхалі!..

Вось, вашы пасведчанні! Вазьміце!.. Ноч, слава Богу, на станцыю — марш! Поезд начны ідзе ў Беласток — Гродна, грошы — рублі маеце? Б-я-г-о-м! У поезд сядзьце не гурбой, па розных вагонах! Пасведчанні — што мы вас к-і-р-у-е-м сёння на працу камсамольскую з моладдзю на Беласточчыне! З пячацямі!.. У дарогу! Бяжыце, шалёныя вы галовы!.. Шкада вас, абармотаў несмышлёных!..Мы тут якась будзем, не дахалі — скажам — чакаем!... Усю гэту яду — н-а-з-а-д! Каб паху НЕ было!..

* * *

А леткам чэрвеньскім 41, у нядзельку 22, раніцай-раніцай! — ад Буга — Драгічына — Сямятыч с-м-е-р-ць папаўзла!.. Людзі збіраліся ў царкву, у касцёл... Малітвы перарваў страшэнны гул!.. Ад Гайнаўкі — праз Пушчу, ад Ляўкова — Сушчы — Міхалова ехалі... н-е-м-ц-ы-! Стаяла аграмаднейшая сцяна пылу, бо адусюль грукаталі танкі. Самаходы, матацыклы!.. Савецкія паспешна пакідалі мястэчка і свае лясныя лагеры... Кідаліся на самаходах, пяшком, у бок Тушамлі — Ціхаволі, праз пушчу на Ваўкавыск, але там, усюды, былі ўжо немцы!.. Дзесь далёка-далёка, аказалася — у Белавежы — ляцелі бомбы!..

Было чутна, як у лесе адстрэльваліся рускія, ды колькі ў іх было вінтовак?.. Ні танкаў жа тут, ні гранатаў вялікіх, толькі хлопцы з пяхоты!.. Немцы ганялі іх па масеўскай і альхоўскай дарогах, касілі-мялі танкамі!.. Запалоненым прыказалі капаць равы-ямы, амаль рукамі, хаваць забітых!..

Жывых і раненых пагналі ў мястэчка, на плошчу ля стадніны, дзе ўсё яшчэ стаялі коні, недалёка ад школы. Прыказалі ад вуліц і поля адгарадзіцца калючым дротам... Вязні сядзелі на пяску, на траве, без ежы і вады, у гарачыні на сонцапёку!.. Дзень адзін, другі, без ветру, без хмары!..

Ноч прывяла вялікія грымоты, бліскавіцы, адкрылася вадзяное неба-акіян!.. Здавалася — бура ніколі тут не заціхне, нікуды не адыдзе, яна павісла навекі над Пушчай!.. Растварылася неба, ад бесперапыннага гуку звінелі вокны, за якімі стаяла велізэзная сцяна-скала бесперарыўнага дажджу-вады-навальніцы...

* * *

Надзюша выбегла ў агарод прынесці цыбулі і радыскі. Часцей за ўсё яе, наўкругі, называлі тут «Н-а-д-з-і-н», бо гэтак, даўным-даўно, у пісьме з Парыжа прапісала была аб ёй іх цёця Вераніка, дзедава сястра.. Ну, «N-a-d-i-n-e» — «Надзін» — спадабалася, зраслося з гэтай высокай бялесай, з касой, з непаслухмянымі на галаве кучарашкамі, дзяўчынай... Гэтак было для сваіх і чужых...

У разоры, пад агародняй грушай, хтось застагнаў: — «Сестрычка, в-о-д-ы!»... Голас быў мужчынскі, балючы... Надзін глянула — т-а-м ляжаў савецкі баец, яна ж пазнала — г-і-м-н-а-с-ц-ё-р-к-а!.. Салдат моцна, унізе, абтуляў свой жывот, на якім было відна запекшуюся кроў... М-н-о-г-а крыві!..

— Пачакайце хвіліну, я — з-а-р-а-з!. — яна ўбегла ў кухню... — Мама, добра што дзедка няма, у краму пайшоў!.. Мамуля! Салдат рускі ў агародзе! У нас! Вады просіць!..

— Пабеглі!... Паказвай, дзе! Вады ў канку вазьмі!.. Божа ж ты мой! Што пачаць?!.

Ён ляжаў, белы як палатно...

— Вада, вось, папіце! Паволі... Шчэ прынясем! Ш-т-о вам?..

— Кони, лошади, п-о-ш-л-и на нас! На меня! Через колючую проволоку!..

Жанчыны не разумелі яго!.. Якія коні?!. Які дрот?!. Якая агароджа?!. Пэўна з гарачкі г-а-в-о-р-ы-ць!..

Рукі яго былі ў крыві... — Ж-и-в-о-т б-о-л-и-т! О-ч-е-н-ь-! .. Я через огорожу, через проволоку, к-о-н-и!..

— Пакажыце!.. — У-у-у! — застагнаў ён, калі маці Верка даткнулася да яго і, разам з донькай, пералажыла яго з боку на спіну... Яго нагавіцы былі таксама ў крыві, у балоце!.. Далоні така ж!.. — Хлопча, б-у-дз-е бацька! Якась вас дацягнем! У свіронак!.. Не, лепей, Надзін, у хлявок, там за дрывамі — дзедкаў ложак стаіць!.. Ну, давайма!.. Цяжкі вы!.. П-а-в-о-л-і! Трымайцуе аберуч рану!.. Мусіць балець! Бач, абамлеў!.. Надзін — вадой на твар, вось гэтак!.. Ачнуўся, Божа ж Ты наш!.. А цяпер ш-т-о?..

Калі яны былі на месцы, маці сказала:

— Надзін, прынясі ручнікі, тыя мяккія, ільняныя!. Раздзявайма, абмыем, ён цэлы ў пяску, у балоце!.. Ну, сцягвай, асцярожна, нагавіцы... Надзін, зусім!.. Ну-ну, г-э-т-а-к, доньку, выглядае мужчына! Знаю, што ты першы раз такога бачыш, а знаць жа будзе трэба, калісь!.. Гэта іх — тожа! Бачыш? — яно ў мужчыны т-а-к-с-а-м-а прыгожае! Чаго хавацца? — гэта чалавечнае!.. Тут у яго — дароднае, маладзецкае!.. Ды і ты, жаўнер-ваяка, не саромся, вачэй не закрывай — што жанчыны аглядаюць! Дарастаць жа трэба — хоць і на вайне!..

Надзін паглядзела... — Як у нашага Антошкі!.. Рукі, грудзі, ногі — аброслыя, чорненькім лёгкім і прыгожым пушком, відаць мяккім-цёплым! Наш, Тосік, толькі чарнейшы!.. Божанька, а дзе ж ён цяпер у гэтай яго Варшаве? Маўчыць усё!..

— Прыгожыя абодва! І гэты вялікі! Як глыба! Ледзь дацягнулі-давалаклі!.. І цыцачкі гэткія, малюсенькія, як Антошкавыя, я ж бачыла няраз! І — вось т-о-е, хлапцоўскае, як у брата, дано за двох-трох! Я, калісь было, падглед зела над рэчкай; прыгожыя яны, хлопцы, што скажаш?.. — усміхнулася дзяўчына...

— Мамуля, а з дзедкам — як будзе?.. — Укруцім я-к-а-с-ь!.. Ён жа ў нас чалавечны, накрычыць, бывае, а праз хвіліну — прыйдзе, пацалуе, па твары пагладзіць ды скажа: — Ну, ты, гэтага!.. — І бацька наш, сёння-заўтра вернецца. Абсудзім, куды ж нам — гэтага бедалагу?.. Хоць бы не ўмер!.. і чаму ён гэтак дзіўна казаў — „кони пошли»? На стадніне? Як? Яны ж у хляве!.. Пакормім яго!..

(працяг будзе)

# Бахуры



**Ад шашы, што з Міхалова вядзе ў Ялоўку, да Бахуроў каля паўкіламетра. Па абодвух яе баках нешырокія лапікі абраблянага поля. Дарога абсаджана „стрыжанымі” ўжо вербамі, якіх маладыя „чубы” горда страляюць у шэрае неба, „уцякаючы” ад шмат старэйшых ствалоў — рыхтык як наша тутэйшая дэмаграфія. Ёсць і крыху бяроз, якіх „прычоскі” пакорліва захіляюць свае ствалы. І вольхі... Гэтыя дрэвы распрануліся з лістоўя, быццам пацыенты, чакаючыя лекаркі ў белым халаце — зімы, якая падлечыла б іх крыятэрапіяй ад розных ласых на драўніну караедаў. Ды апошнія зімы разгультаіліся, працаваць не хочуць, махнуць толькі кароценькім халацікам і толькі іх бачыш...**




У Бахуры выбраўся я 19 снежня, на Мікалая паводле юліянскага календара. У царкоўным партале прачытаў я менавіта, што святкаванне ў гонар гэтага святцеля ў гэты дзень адбываецца менавіта ў Бахурах. У пачатку вёскі стаіць царкоўка-капліца, але нейкай пазнакі чаканага святкавання я там не заўважыў. Мабыць здарыўся там цуд. Бо ж цуды, здаецца, здараюцца не толькі тады, калі наступае нешта неверагоднае, нечаканае, але — так мне здаецца — і тады, калі амаль пэўнае чаканае не збываецца. Пасля высветлілася, што ў Бахурах сапраўды адзначаецца свята ў гонар святцеля Мікалая, але адбываецца гэта 22 мая.

Вёску Бахуры наведаў трыццаць восем гадоў таму Мікалай Гайдук. І вось так ён тады цікава апісаў гэтую мясцовасць: „Не здзіўляйцеся, ёсць на Беласточчыне вёсачка з такою правакуючай назвай, і то зусім прыстойная вёска. Ва ўсім вінавата гісторыя мовы, а дакладней няспынны працэс: адміранне адных значэнняў якога-небудзь слова і ўзмацненне або паяўленне новых яго значэнняў. Гэтаму прыклад якраз слова „бахур”, якое раней абазначала ў беларускай і ўкраінскай мовах „залётнік, валацуга, любоўнік, пухаты, таўстун, кныр, малое дзіця, няшлюбнае дзіця”. З бегам часу па розных прычынах усе іншыя значэнні слова „бахур” забыліся, захавалася і ўмацавалася толькі апошняе — „няшлюбнае дзіця”. Назву ж „Бахуроўскі” займеў кавалак колішняй Ялоўскай пушчы вельмі даўно, бо ў пісаных дакументах ён сустракаецца ўжо ў палавіне XVIII стагоддзя. Гэта быў „абруб”, або інакш тая частка лесу, якая лічылася за адным асочнікам ці па-сённяшняму гаёвым і ён быў адказны за яе стан. Ці той першы гаёвы-ляснік быў надта залётны ці вельмі пузаты, сёння цяжка сказаць, але вядома тое, што яшчэ да 1921 года гэтая мясцовасць у розных афіцыяльных дакументах называлася Бахуроўшчына, але потым перамагла народная назва Бахуры”. І сапраўды, Геаграфічны слоўнік Каралеўства Польскага з канца XIX стагоддзя так апісваў гэтую вёску: „Bachurowszczyzna, wieś, pow. wołkowyski, gm. Juszków, 49 wiorst od Wołkowyska, 334 dziesięciny włościańskie”.

У апісанні Бахуроў Мікалай Гайдук згадваў пра дзве капліцкі ў гэтай вёсцы: каталіцкую і праваслаўную. У той час былі гэта дзве невялічкія будынінкі, чыста



сімвалічнай велічыні, якія не датрывалі да нашых дзён. На месцы каталіцкай каплічкі высіцца зараз высокі крыж-кальварыя, а на месцы праваслаўнай — згаданая раней капліца-царкоўка. Каля апошняй ролю звана выконвае кавалак рэйкі, а званіцай там — вольха, што расце побач царкоўкі на беразе акаймляючай вёску рачулкі-канавы Лупплянкі.

Варта яшчэ вярнуцца да слова „бахур”, ад якога па ўсёй верагоднасці і прынялася назва вёскі. Мікалай Гайдук абмежаваўся ў сваіх разважаннях да „патрыятычных” вытокаў гэтага слова, я ж хачу глянуць крыху больш „касмапалітычна”. Этымалагічны слоўнік Брукнера: bachor, bachur, 'dzieciak', 'bęben', z hebrajskiego bachur, 'młodzieniec'. З Сеціва: „Za możliwością jakiejś rodzimej etymologii tego wyrazu, który miałby pierwotnie oznaczać brzuch', a następnie zmienić znaczenie na dziecko', przemawia pewna paralela. Otóż wyraz bęben przypuszczalnie był najpierw pogardliwą nazwą brzucha kobiety ciężarnej, a dopiero później nabrał znaczenia — bękart'.” У Сеціве таксама згадваецца, што ў больш паўднёвых славян слова „бахор” таксама абазначае жывот; цікава, ці ў анатамічным сэнсе, ці ў акушэрскім. Мяне наведала грэшная думка, што чэшская зёлкавая гарэлка „Becherovka” з прысмакам палыну з'яўляецца менавіта гаючым сродкам на нястраўнасці страўніка менавіта...

Але даволі шляцца па экзатычных этымалогіях, пара вярнуцца ў самі Бахуры. Вуліца тут паралельная да згаданых раней шашы з Міхалова ў Ялоўку і рачулкі Лупплянкі. З дарогі, што прывяла мяне на гэтую вуліцу, паварочваю налева. Хаты тут даўняй забудовы, часткова абноўленыя на сучасны лад. З вуліцы відаць павільёнчык, які даўней выконваў ролю крамы-буфета — зараз ён сведчыць адно пра тое, што гандлёвая дзейнасць адбывалася ў ім вельмі даўно. Далей паветка з ржавеючай тэхнікай для ўборкі ўраджаю.

На самім канцы вёскі сустракаю мужчыну на калясцы, які выехаў палюбавацца свежым вясковым водарам. Бо і сапраўды, водар тут свежы, не „забруджаны” ніякімі прыпахамі ад сельскагаспадарчай дзейнасці. Толькі двух сялян абрабляюць крыху зямелькі. На зіму астаецца ў вёсцы нямнога людзей, колькі — прыблізна наваt невядома. Цікаўлюся нейкімі мясцовымі помнікамі і мой субяседнік паведамляе мне, што за вёскай ёсць помнік байцу. Расказаў ён мне як да яго дайсці і я падаўся ў пошукі.

У невялікай аддаленасці ад вясковай вуліцы, перад іншым адгалінаваннем рачулкі Лупплянкі некалькі дачных хат. Перад першай з іх бегае брахлівы сабака-інвалід без задняй лапы. Брахаць на выпадковых прахожых дапамагае яму электронная брахалка, а калі прахожых няма, то і брахаць няма на каго. І доля таго сабакі — сапраўды сабачая. Іду дарогай, якая раней выконвала ролю загуменнай вулкі — яшчэ яна цалкам не зарасла, разглядаюся за байцоўскім помнікам... Але помніка не відаць, затое на градзе ўздоўж рачулкі ямы, дзе калісь людзі зімавалі бульбу. Вяртаюся назад. Мой знаёмы інфармуе, што мо выгадней той помнік знайсці з другога боку, ад жвіроўкі...

Ну то іду ў напрамку другога боку вёскі, выходжу на жвіроўку, што раней, мабыць, вяла ў напрамку Будаў, Боўтрык, Рудні, Гарбароў, Рыбакоў, Бандароў... Паварочваю на загуменную дарожку і ў адлегласці каля ста метраў паказваецца акуратна памаляваны помнік-намагільнік з чырвонай зоркай. На ім і пустое месца для інфармацыйнай таблічкі...

Вяртаюся ў вёску. У восеньскую, якую цяпер маем заміж зімовай, пары, людзей на вуліцы не відаць, але ж перад адной з паветак паказаўся мужчына з выгляду гадоў пад шэсцьдзясят; спытаў я яго пра тую сімвалічную байцоўскую магілку. Атрымаўся даволі сумны аповед:

— На фронт пайшлі два сыны і бацька, і ніводзін не вярнуўся. Адрас пры ім быў, яму быў 21 год, Коля называўся. Нямецкі снайпер сядзеў тамака на елцы, дзе цяпер басейн, і яго зняў. І тут яго пахавалі. То я рабіў фундаменцік, а агароджу ў кулку ў Багнюках зрабілі. Там месца для таблічкі ёсць, але ніякай таблічкі там не было. У нас жанчына ляснічым, а яе дзядзька, Каліноўскі, лістаношам быў у Юшкавым Грудзе. І мы напісалі, але куды напісаць. Паслалі той ліст да начальніка пашпартоў. Дайшло тое пісьмо да Масквы і за паўгода прыйшоў адказ, такі вялікі пакет. І 22 мая бацюшка туды хадзіў і высвенчвалі там. Асталіся тады ў яго тры сястры і маці, 600 кіламетраў за Масквою; яны напісалі, што не змогуць прыехаць, бо ж тады і магчымасцей не было, бо пашпарты і ўсё такое, а можа і грошай у іх не было на такую дарогу. Яго пасля перапахавалі. І каля Рудні такая ж агароджа стаіць. Тут была вялікая партызанка і яны хацелі ў Белавежу. Аднаго называлі Паўтара-Івана, такі высокі быў...

Пра больш мой суразмоўца параіў мне распытацца ў старэйшых людзей, якія павінны быць у другім канцы вёскі. А я звярнуў увагу на кучу друзу, што ляжала на суседнім, зарослым прыродай пляцы.

— Тут калісь раміза стаяла, купіў яе прыватнік, раскідаў, толькі не было куды таго друзу вывезці і ён так астаўся. І ляжыць, бо той уласнік, ходзяць чуткі, памёр...

Пісаў калісь Мікалай Гайдук пра тую рамізу: „З думкай пра ажыўленне ў вёсцы грамадскага і культурнага жыцця члены падставовай партыйнай арганізацыі ПАРП і проціпажарнай каманды заініцыявалі пабудову рамізы-святліцы. Будынак расце, але паволі. Патрэбна большае зацікаўленне і дапамога ў паскарэнні будовы з боку гмінных уладаў у Міхалове”. Было тое зацікаўленне, ці не было, а вынік надта сумны...

З другога боку вёскі паказалася мабільная крама. Падышоў я туды, да групкі мужчын. Найстарэйшы, з выгляду, з іх дадаў да раней пачутага, што баец называўся Мікалай Быкоў, а жанчына, у якой былі і веды, і нават дакументы па ягонай справе, памерла тры гады таму. А пра магілу дбае тут у нас жанчына, што ляснічым, то хіба яна і паставіла лампадкі, дбае пра магілу. І сястра суразмоўцы хадзіла ўпярод, дбала, *бацюшко* хадзіў, асвячаў тую магілу.

А сама вёска выглядае агульна так, быццам там наступіў нейкі канец свету, быццам у нейкі момант загудзелі анёльскія трубы і людзі кінулі свае панадворкі ў ходзе нейкага парадкавання, так і не дакончыўшы яго пабеглі на Страшны Суд, пакідаючы крыху арыгінальных дойлідскіх памятак...

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**



# Дубяжынскі дуб (2)

**Стары дуб у вёсцы Дубяжын ссеклі 26 лютага 2014 года таму, што ён, ударany маланкай, пачаў распалавіньвацца і стаў небяспекай для навакольных хат. Ася і Ірыней Вышкоўскія, уладальнікі дуба, рашылі аддаць дрэва ў рукі Дарафея Фіёніка. На здзіўленне ўсім, верхняя частка дуба не дазволіла сябе падняць і засталася ў Дубяжыне.**

Летам у Дубяжыне быў сарганізаваны пленэр, у рамках якога рэалізавана была адукацыйная праграма «Памяць бежанства», якую ад пачатку ажыццяўляе Музей малой айчыны ў Студзіводах. У рамках праграмы праводзіліся гістарычныя заняткі ў бельскім Беларускім ліцэі. Арганізаваны былі пазаўрочныя заняткі ў розных мясцовасцях Падляшша, адбыўся моладзевы летнік на тэрыторыі прыхода ў Пухлах, у час якога былі сабраны ўспаміны дзяцей бежанцаў 1915 года. Вынікам летніка стала «Бежанская газета». А пленэр у Дубяжыне запачаткаваў праграму «Памяць бежанства». Ад пачатку ў рэалізацыю задумы актыўна ўключыўся солтыс сяла Мікалай Сцепанюк. Усе дзеянні былі адобраны Салэцкай радай і войтам гміны Бельск-Падляшскі Раісай Раецкай. Пленэр праходзіў пад кіраўніцтвам Анатоля Туркова з Камянца, які ад 2009 года з'яўляецца камісарам усіх скульптурных пленэраў у Студзіводах. Другім разьбяром быў вядомы беларускі майстар Мікалай Скляр з Гродна. Дапамагалі ім тры вучні політэхнічнага каледжа з Кобрына. Тэхнічную дапамогу аказалі жыхары Дубяжына Юрка Тамчук, спадар Бандарук і іншыя. Пленэр і іншыя задумы, звязаныя з праграмай «Памяць бежанства» былі рэалізаваны пры фінансавай падтрымцы Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі Польшчы.

10 верасня 2015 г. усе мы былі запрошаны Дарафеем Фіёнікам на асвячэнне разных прац, якія былі размешчаны на падворку вясковай святліцы. Усё мерапрыемства мела ўвекавечыць сотую гадавіну бежанства. Убачылі мы цудоўную каплічку, на якой была разьба іконы Праабражэння Гасподняга і іншая, прадстаўляючая «Бежанства 1915-1922». Нашы святары Міраслаў Чурак і Марк Якімюк асвяцілі скульптуры з адмысловай малітвай. Калі ў бляску заходзячага сонца, якое сваімі прамянямі асвятляла новастворанаю ікону і вялікую памятку з дубу, пад якім я вырастала, на маіх вачах выступілі гарачыя слёзы шчасця. Сон маёй мамы здзейсніўся. Ёсць цуд на свеце — як гаварыў мой бацька. Сабраліся людзі, не толькі з Дубяжына, але і з суседніх вёсак: Мокрага, Казлоў, Кошак і іншых мясцовасцей. Прыехалі паломнікі — дзеці з пачатковай школы з прыхода святога Яна Лесвічніка на Волі ў Варшаве. Добра, што вялікі дуб не паддаўся і застаўся ў родным сяле, дзе ўсе людзі заўсёды змогуць прыйсці сюды памаліцца. А можа і гэты дуб, як адзіны з сяла, памятае гісторыю бежанства, усіх здарэнняў, выезду і вяртання жыхароў роднай вёскі.

Пасля супольнай малітвы арганізатары запрасілі ўсіх сабраных паглядзець фільм Юркі Каліны пра Першую сусветную вайну. Сабраныя ўдзельнікі глядзелі фільм у вялікім задуменні, з іх твараў можна было вычытаць тое, што ўспамінаючы сабе словы расказаў сваіх прадзедаў, дзядоў, бацькоў. Напэўна кожны з нас шкадаваў, што не ўмелі мы выслухаць усяго, што яны хацелі нам пераказаць. У фільме старэнькія людзі расказвалі пра тое, як у 1915 годзе ўцякалі ў Расію, як праходзіла іх дарога, якое там было жыццё і як вярталіся. Альжбета Фіёнік, якой бацька таксама з'яўляецца жыхаром Дубяжына, выступіла са сваёй тэатральнай групай «Антракт» з Бельскага дома культуры. Цудоўна прагучалі мелодыі ў выкананні цымбалісткі Аліны Шацько з Мінска. Выступілі калектыў «Жэмэрва» пад кіраўніцтвам Анны Фіёнік і калектыў з Дубяжына «Родына» пад кіраўніцтвам Альжбеты Рыжык. Вечар закончыўся супольнымі цудоўнымі песнямі і танцамі, якія выгрывалі нам Дарафей Фіёнік і яго сыны Ілья і Максімка. Падлога гучала пад нашымі нагамі быццам і яна была дубовая!

Цешыць мяне тое, што гісторыя пра наш дуб ніколі не загіне, што далей ён будзе сімвалам нашага сяла і не толькі яго, таму што ніжняя ягоная частка будзе стаяць у Бельску-Падляшскім. Але пра гэта яшчэ пачуем...

**Тэкст і фота Лідзіі МАЛІНОЎСКАЙ**

Інтэрактыўныя гульні па беларускай мове і літаратуры

## http://intgulni.blogspot.com.by

Беларускую мову, як у прынцыпе і кожную іншую мову, можна вывучаць па-рознаму. Зразумела, што найлепшым спосабам з'яўляецца пагружэнне ў моўны асяродак, дзе няма аніякай іншай мовы, акрамя той, якую вывучаеш. У адносінах да беларускай мовы гэты спосаб даволі складаны, бо нават прыезд у Беларусь яшчэ не абазначае, што чалавек апынецца сярод выключна беларускамоўных людзей.

Таму, пэўна, найбольш прыдатным тут застаецца спосаб традыцыйнага вывучэння і ўдасканалення — з кніжкай, асадкай і сшыткам. Праўда, сучасныя тэхналогіі дазваляюць выкарыстоўваць інтэрнэт, які можа стаць выдатным падсобным сродкам для набыцця новых ведаў і спраўджвання замацаванага матэрыялу. У якасці прыкладу можна прывесці сайт **http://intgulni.blogspot.com.by**, які не толькі вучыць правільна пісаць па-беларуску, але і робіць гэта праз гульню.

Калі цікаўны карыстальнік зазірне на даны сайт-блог, то ён убачыць даволі просценькае, але цалкам зразумелае выяўленне. З правага боку пад выйсцямі да рубрык месяцца цэтлікі — гіперспасылкі, якія дазваляюць выбраць тую ці іншую тэму для вывучэння. Антонімы, арфаграфія, біяграфія, бяззлучнікавы сказ, вершы, геральдыка, гісторыя, графіка, дзеепрыметнік, дзеепрыслоўе, дзеяслоў, загадкі, займеннік, зваротак, злучнік, краязнаўства, крыжаванка — гэта невялікі пералік тэм, што прысутнічаюць на сайце і на якія падзелены цэлы яго змест.

У рубрыцы „Як працаваць з блогам" даюцца даведкі і парады як трэба выбіраць навучальныя інтэрактыўныя гульні і выконваць заданні. Згодна з пададзенай там інфармацыяй, на сайце існуюць два варыянты гульняў-пазлаў і адзін варыянт, дзе выкарыстоўваюцца карткі, на адным баку якіх месцяцца пытанне, а на другім — адказ.

Хоць самавывучэнне мовы — найлепшы спосаб набыцця і засваення ведаў, даны сайт-блог прадугледжвае і наяўнасць настаўніка, які б кіраваў гэтым працэсам. Асобная рубрыка „Падказкі для настаўнікаў" распавядае, якім чынам ствараюцца даныя гульні па беларускай мове і літаратуры, прычым кожная назва рэсурсу — гэта таксама і спасылка на яго. Адсюль, дарэчы, можна даведацца, што сайт-блог належыць жанчыне. Па ўсім відаць, што яна надта сціплая і таму інфармацыю пра яе знайсці не так лёгка — толькі ў самым нізе цалага выяўлення можна прачытаць, што яна мае імя Алена — настаўніца беларускай мовы і літаратуры. Яна сумленна прызнае, што яе сайт мае недахоп. „Адзіны недахоп сайта — адсутнічае беларускамоўны інтэрфейс. Аднак магу парадаваць: я звязалася з распрацоўшчыкамі сайта і пачала перакладаць яго на нашу мову", — піша Алена ў „настаўніцкай" рубрыцы. Там жа месцяцца станоўчыя водгукі на яе працу ў інтэрнэце ад калег.

Найбольш папулярнымі гульнямі на даным сайце з'яўляюцца „Прыказкі пра Радзіму", „Н і НН у прыметніках 2", „Дапасаванне, кіраванне, прымыканне", „Складаназалежныя сказы з некалькімі відамі даданых частак". Пра гэта распавядаецца ў адмысловай рубрыцы з левага боку выяўлення.

Сярод выйсцяў, пазначаных зверху, знаходзяцца выйсці на рубрыкі „Беларускія загадкі" і „Беларускія прыказкі", якія з'яўляюцца асобнымі сайтамі-блогамі.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

Дата з Календара

Адраджанец незалежнай прэсы

## 55 гадоў з дня нараджэння Ігара Гермянчука

Беларускі журналіст і грамадскі дзеяч, дэпутат легендарнага Вярхоўнага Савета XII склікання Ігар Гермянчук нарадзіўся 1 студзеня 1961 г. у вёсцы Стракавічы Светлагорскага раёна, што на Гомельшчыне. Вучыўся ў сярэдняй школе-інтэрнаце ў Светлагорску. Пасля скончыў факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Быў удзельнікам легендарнай грамадскай арганізацыі „Майстроўня", удзельнікам незалежніцкага руху, які паўстаў у час гарбачоўскай перабудовы. Яшчэ студэнтам браў удзел у фальклорных святах, якія ладзіла „Майстроўня", на іспытах адказваў выкладчыкам па-беларуску. Працаваў на Паліграфічным камбінаце імя Якуба Коласа, выносіў адтуль наборныя літары для нелегальнай друкарні, якую марыў стварыць разам з сябрамі-аднадумцамі. Калі ж утварыўся Беларускі народны фронт, Гермянчук стаў яго актыўным сябрам.

У 1990 годзе, калі яму было толькі 29 гадоў, выбраны дэпутатам Вярхоўнага Савета тады яшчэ БССР. 11 красавіка 1995 г. Ігар Гермянчук разам з іншымі дэпутатамі парламенцкай апазіцыі БНФ абвясціў галадоўку супраць ініцыяванага Лукашэнкам рэферэндуму пра змену статусу адзінадзяржаўнай беларускай мовы і змену дзяржаўнай сімволікі. Як вядома, у ноч на 12 красавіка дэпутаты былі жорстка збітыя атрадам міліцыі асаблівага прызначэння і невядомым падраздзяленнем у масках. Парламентарыяў выкінулі з будынка. Так у Беларусі адбыўся антыканстытуцыйны дзяржаўны пераварот.

Калі Гермянчуку было 30 гадоў, ён стаў галоўным рэдактарам газеты „Свабода". Газета пры ім зрабілася найбуйнейшым і найпапулярнейшым апазіцыйным выданнем краіны. У ёй працавалі таленавітыя і смелыя журналісты. За праўдзівыя і вострыя публікацыі, якія вызначалі як антыпрэзідэнцкія, пракуратура чатыры разы пачынала на Гермянчука крымінальныя справы. Гермянчук быў асобай-рухавіком усёй рэдакцыі, асноваў выдання, укладаў у гэта ўсё сваё майстэрства, усе свае сілы, і на гэтай працы проста гарэў. Урэшце ў канцы 1997 г. няўгодная ўладзе „Свабода" была забаронена, але ўжо ў студзені 1998 г. Ігар Гермянчук здолеў яе адрадзіць пад новай назвай — „Навіны". Пазней ён заснаваў часопіс „Кур'ер" і быў яго галоўным рэдактарам. Гермянчуку неаднаразова пагражалі, невядомыя нават стралялі па вокнах ягонага дома.

Пісьменнік Уладзімір Арлоў так характарызуе Ігара Гермянчука: „Ён, магчыма, як ніхто іншы з рэдактараў, разумеў магутную стваральную сілу нацыянальнай памяці. Даведаўшыся, што дзяржаўныя выдавецтвы адмовіліся друкаваць нашы з Генадзем Сагановічам „Дзесяць вякоў беларускай гісторыі", Гермянчук прапанаваў цалкам апублікаваць кнігу на старонках „Свабоды". Тая публікацыя выклікала вялізны інтарэс чытачоў. Зянон Пазьняк, успамінаючы Гермянчука, падкрэслівае ў час дзеяння парламенцкай апазіцыі таксама палітычную сталасць і цвёрдасць Гермянчука: „Ён быў і вельмі здольным палітыкам, удзельнічаў у распрацоўцы ўсіх нашых законапраектаў. Ён меў талент аратара, мог добра аналізаваць, добра выступаць".

Памёр Ігар Гермянчук заўчасна ад цяжкай формы анкалагічнай хваробы ў Мінску 29 красавіка 2002 г. Яму было толькі 41 год. Пахаваны адраджэнец беларускай прэсы на сталічных Усходніх могілках.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

## Экуменічная сустрэча



22 снежня ў Гмінным асяродку культуры ў Чаромсе адбылася экуменічная сустрэча, арганізаваная Гмінным асяродкам сацыяльнай дапамогі. У сустрэчы ўдзельнічалі кіраўнікі гміннага самаўрада — войт Міхал Врублеўскі і старшыня Рады гміны Сяргей Смык, святары Праваслаўнай царквы і Каталіцкага касцёла, між іншым, а.а. Юры Пліс, Мікалай Беламызы з Чаромхі, Рыгор Наўмовіч з Кузавы і кс. Генрык Калiноўскі з Чаромхі, ды шматлікае кола сенiёраў з Вулькі-Тэрахоўскай, Чаромхі-Сяла, Чаромхі, Баброўкі, Кузавы і Ставішчаў, у агульным ліку каля васьмідзесяці асоб. Сустрэча пачалася ў 15 гадзін з прамовы войта Міхала Врублеўскага, які прывітаў гасцей, затым спасляўся на традыцыю святкавання Божага Нараджэння. У мастацкай частцы выступілі школьныя дзеткі, якія чыталі адмысловыя святочныя вершы і выконвалі калядкі на польскай, беларускай і ўкраінскай мовах.

Пакуль сесці да куцці, святары згаварылі малітву і блаславілі стравы. На адмыслова прыбраных сталах, упрыгожаных піхтавымі галінкамі і каляровымі свечкамі, красаваліся дванаццаць страў ды аплатка, якой падзяліліся паміж сабою ўдзельнікі сустрэчы — католікі і праваслаўныя — ды павіншавалі сябе ўзаемна. Сустрэча праходзіла ў сардэчнай атмасферы. Пры застоллі не абышлося без супольнага калядавання. Гучалі ўперамешку польскія і праваслаўныя калядкі. Як сказаў ва ўступнай прамове войт Міхал Врублеўскі, экуменічную сустрэчу сёлета арганізавалі ўпершыню, затым мерапрыемства — апрача навагодняй сільвестравай забавы перад гмінай — будзе занесена ў каляндар штогадовых культурных мерапрыемстваў.

**Уладзімір СІДАРУК**

Дзмітры ШАТЫЛОВІЧ

**РОДНАЯ ЛІТАРАТУРА**

### БЕЛАРУСКАЯ МОВА Ў БЕЛАРУСі

Кожная дзяржава моваю дзяржаўнай
Вызначае мову родную бацькоў,
І яе ў народзе песціць, робіць слаўнай,
Гэту мову ўводзіць да ўсіх устаноў.

Ужывае мову родную штодзённа
Прэзідэнт дзяржавы і прэм'ер-міністр,
І міністры ўрада, служба ўся ў пагонах:
Генерал, палкоўнік і артылерыст.

Вучаць роднай мове ўсіх дзяцей у школах,
Мусіць добра знаць яе на ВНУ студэнт,
Словы роднай мовы чуюцца наўкола,
Пішуць на роднай мове кожны дакумент.

І ў фальшывым рэферэндуме на Беларусі,
Выбралі чужую мову для сябе,
Бо сусед з Усходу да таго прымусіў,
Разагнаць парламент ён памог у барацьбе.

Адракліся беларусы ад Пагоні
І ад сцяга гістарычнага свайго,
Сцяг чужы з савецкім гербам стаў законным,
Лунае ў іх ужо амаль дваццаць год.

І гучыць чужая мова ў Беларусі
У парламенце, на вуліцы, ў дамах,
Да сваёй цяпер ніхто іх не спакусіць,
Да яе не заахвоціць іх турма.

На роднай мове гавораць патрыёты,
Выслухоўваючы пры гэтым многа кпін,
Ды насмешкі для іх, то ідыёты,
Апусціўшыя нядаўна каранцін.




## Дзе найбольш чытачоў „Нівы"

У салэцтве Новае Ляўкова (у ім ёсць пасяленне Лазовае) у Нараўчанскай гміне „Ніву" № 48-50 купілі 28 і чыталі 42 жыхары Найбольш яны купілі пяцідзясятага нумара роднага тыднёвіка ад 13 снежня 2015 года. Чытала яго дваццаць адна асоба.

Асабліва зацікавілі іх допісы м.інш. пра сенiёраў у Нараўчанскай гміне („Ніва" № 48) пра дэмаграфію Нараўчанскай гміны, святкаванне Міхайла ў Старым Ляўкове і літаратурную вечарыну нараўчанскіх літаратараў у Орлі („Ніва" № 49) ды асабліва крануў іх допіс новаляўкоўскага раднага і солтыса пра вялікія клопаты ляўкоўцаў, калі трэба ім даехаць у Беласток ды ў Міхалова („Ніва" № 50).

У Новым Ляўкове беларускі тыднёвік пастаянна чытаюць тры сям'і Скепкаў, Эва Дзеніс, Людміла і Барыс Казлоўскія, Ірына Казлоўская, Альжбета і Уладзіслаў Красноўскія ды Марыя і Сяргей Саевічы (усе яны жывуць на калёніі, воддаль ад сярэдзіны вёскі), Марыя і Канстанцін Целушэцкія, Ніна Галубоўская, Лідзія Галубоўская, Міхал Болбат, Міхал і Ніна Целушэцкія, Валянціна і Аляксандр Ігнацюкі, Марыя Крышань, Андрэй Пучынскі, Галіна і Юрка Казлоўскія ды Раіса Баканач.

Варта дадаць, што зараз — да 17 снежня гэтага года — жыхары Новага Ляўкова, Старога Ляўкова, Ахрымоў, Лешукоў, Падляўкова і Плянты папрасілі новаляўкоўскага солтыса, каб ён паклапаціўся і прывёз ім сама менш 50-60 экземпляраў „Нівы" з беларускім календаром на 2016 год. Солтыс ужо мае спісак ахвотных пакупнікоў на 52 нумар беларускага штотыднёвіка. Ён прывязе іх больш. Мае досвед з распаўсюджваннем газеты з беларускім календаром з мінулых гадоў. Ездзіў тады яшчэ раз у рэдакцыю ў Беласток.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**



## 03.01 — 09.01

**(22.03. — 20.04.)** У студзені пакажы сваё акцёрскае майстэрства. Зайграй у жыцці, на працы і ў асабістых адносінах. Але ты павінен дзейнічаць натуральна і не ставіць на незвычайнае для цябе, будзь самім сабой. На працы пакажыся актыўным і мэтанакіраваным, рэалізуй праекты і новыя планы. Клапаціся пра дом і сям'ю. Добры дзень: 5.01.

**(21.04. — 21.05.)** Ідэальныя ўмовы для запуску новых прадпрыемстваў. Твой здаровы розум і рэалізм дапамогуць табе ў распрацоўцы твайго грамадскага жыцця. Больш часу і энергіі на пытанні прафесіі. Калі знаходзішся ў адносінах, у тваім жыцці будуць мір і гармонія. Не расказвай пра сябе і сваё асабістае жыццё. У студзені будзеш акружаны зайздроснікамі і крытыкамі. Нечаканая вестка — дома або ад далёкіх сваякоў. Пры негатыўных сітуацыях для працы справішся з імі цярпеннем і разважлівасцю. Будзь асцярожны 6.01.

**(22.05. — 22.06.)** У пары не іграй слязамі і мухамі — многія пары распадаюцца з-за гэтых «гульняў», а партнёр не схоча цярпець штучных эмоцый і выбараў. Змяні сваю стратэгію, калі шануеш адносіны. Атрымаеш нечаканае ўзнагароджанне. Купі адзенне, тэхніку і іншыя неабходныя прадметы. Будзь асцярожны 7.01.

**(23.06. — 23.07.)** Усміхайся, жартуй — студзень падносіць табе сюрпрызы і падарункі. Паказвай іншым, што ты задаволены жыццём і ўсё ў цябе ідзе добра. Чакаюць важныя падзеі на працоўным месцы; будзь нейтральным! Выдатнае здароўе. Будзеш проста выпраменьваць здаровую энергію. Для падтрымкі добрага стану прымяняй кантрасны душ адзін раз у дзень і пі свежавыціснутыя сокі. Важныя дні для жыцця і ініцыятыў: 3 і 7.01., будзь асцярожны 8.01.

**(24.07. — 23.08.)** Студзень прынясе з сабой моцную патрэбу ў аднаўленчых праектах і ўкараненні новых, невядомых элементаў. Схочацца табе зрабіць нейкія радыкальныя рашэнні, асабліва ў адносінах з іншымі, у гутарках і наогул зносінах. Звярні ўвагу на аксесуары, купі новы гадзіннік, ювелірныя ўпрыгажэнні і яркі абутак. Час на ідэальны шлюб, нават у снежную буру. Асабліва важны дзень для пачуццяў і бізнесу: 9.01.

**(24.08. — 23.09.)** Час на працяг твайго бізнесу, асабліва пачатага ў чэрвені ці ліпені мінулага года. Дадатак энергіі для твайго інтэлекту. Некаторым людзям не будзе ў нагу з тваім вобразам мыслення! У будучыні не бойся браць на сябе ініцыятыву. Не шкадуй лёгкага, несур'ёзнага флірту, і не надзімайся, бо не прыцягнеш да сябе прыхільнікаў. А можаш сустрэць кагосьці цікавага. Важны дзень: 2.01.

**(24.09. — 23.10.)** Будзеш паводзіць сябе крыху як самаўлюбёны паўлін. Для гэтай «чысткі пёраў» наведай цырульню або касметолага, купі новую вопратку ці аксесуары. На працягу студзеня паводзь сябе з годнасцю, як кароль птушак. Паклапаціся пра сваё здароўе: практыкуйся, пі вітаміны, еж карысныя і натуральныя прадукты. Асабліва спрыяльныя дні: 2 і 6.01., будзь асцярожны 4.01.

**(24.10. — 22.11.)** Часам не трэба хаваць негатыўных эмоцый. Хтосьці цябе выведзе з раўнавагі, угневіць, сапсуе настрой. Калі ты прывык праяўляць стрыманасць і падтрымліваць мірныя паводзіны, выяві свой гнеў. Крычы, пабі талерку, пазаймайся каратэ або боксам, вылі эмоцыі на фізічным узроўні. Гэта дапаможа табе пазбавіцца ад назапашанага негатыву. Пі гарбату з лімонам, мёдам і цытрусавымі, апранайся цёпла, звяртаючы асаблівую ўвагу на ногі. Асабліва спрыяльны дзень: 3.01., будзь асцярожны 2.01.

**(23.11. — 22.12.)** Пара падумаць аб стварэнні сям'і, калі ў цябе яе няма і дагэтуль не хацеў мець. Калі ты самотны, выйдзі са сваёй шкарлупіны і актыўна шукай вакол. Шпацыруй, хадзі ў непрацоўны час у кафэ ці рэстаран, можаш сустрэць там пасланцоў лёсу. Асабліва спрыяльны дзень: 3.01.

**(23.12. — 20.01.)** У студзені можаш пазбыцца кепскіх звычак, нават калі гэта толькі бяскрыўднае абгрызанне пазногцяў або позняе ляганне спаць. Студзень асабліва карысны, каб пазбавіцца ад таго, што перашкаджае табе паўнавартасна жыць. Вельмі прадуктыўна ў творцаў і рукадзельнікаў — гэта будзе карысна для ўнутранага свету і чэрпання энергіі з космасу. Асабліва спрыяльны дзень: 6.01, горшы: 2.01.

**(21.01. — 19.02.)** Паслабся, выспіся, правадзь час дома ва ўтульных абдымках каханай асобы — абновіш сябе. Не турбуйся нічым, маеш права на крыху ляноты! Нават калі крыху прапусціш у інтарэсах. Асабліва спрыяльны дзень: 8.01.

**(20.02. — 21.03.)** Старайся нічога не марнаваць. Захавай, калі гэта магчыма, грошы — прыдадуцца ў найбліжэйшай будучыні. Можа прытрапіцца табе незвычайны занятак — сыграць у рэкламе або фільме, удзел у конкурсе. Не толькі атрымаеш матэрыяльныя выгады, але і задавальненне ад працэсу. Будзеш падабацца, цікава праводзіць час. Не бойся паказаць сваю любоў і задзейнічаць першым. На працы — новыя абавязацельствы, але без росту зарплаты. Асабліва спрыяльны дзень: 2.01.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

## Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. соціна гектара = 17 _ 20 _;
2. Уладзімір Ульянаў = 3 _ 15 _ 14 _ 13 _ 16 _;
3. харчовая туша жывёл = 12 _ 11 _ 1 _ 2 _;
4. пінская рака = 7 _ 22 _ 10 _ 4 _;
5. орган размнажэння ў... Семяноўцы = 9 _ 8 _ 21 _ 6 _;
6. ніткі ад шаўкапрада = 23 _ 19 _ 5 _ 18 _.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| | | | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 |
| 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 |

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 50 нумара**

Поўнач, Швецыя, інгаляцыя, Гобі, бярэмя, камень, цукар, лявоніха.

Рашэнне: **Бог не цяля, бачыць круцяля.**

Кніжную ўзнагароду высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" - kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" - kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00].

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.



# У палескай глыбінцы (28)

■ Цэнтр Дубровіцы

У маладым бярэзніку поўным ходам працавала мотапомпа. Пранізлівы, стаматалагічны гук працінаў паветра, мазгі і зямлю. Я ішла следам Васі, як цяля на вяроўцы. Мой гід аказаўся яшчэ і палескім джэнтльменам. Ён вайсковымі чаравікамі вытоптваў для мяне дарогу сярод ссохлай, няскошанай травы.

— Каб хоць пані Ганна туфлікаў не запэцкала!

Мы ішлі насустрач брыгадзе, якая з дапамогай мотапомпы нелегальна «капала» бурштын. Чалавек звыкся, што «нелегальная» дзейнасць заўсёды схаваная і засакрэчаная. Тут, на дубровіцкім клондайку, усё было агучанае на кіламетр і бесцырымонна адкрытае. Наш візіт не выклікаў спалоху. Наадварот, кожны хацеў абмяняцца навінамі.

Ля мотапомпы, прычэпленай да прымітыўнай канструкцыі з маторам, працавалі чатыры маладзёны. Усе, як адзін муж, былі апрануты ад галавы да ног у камуфляжную вопратку. Працавалі на змену. Трох іншых хлопцаў адпачывала. Яны ляжалі на траве ды ўзіраліся ў белыя хмаркі на блакітным небе. Адзін з іх перажоўваў у зубах ссохлую сцяблінку травы.

Вася павітаўся, ціснучы капачам кожнаму паасобку руку. Круты Арцём адышоў на бок ад мотапомпы, каб пагаварыць з намі „ў цішы".

— Ці штосьць вядома наконт ліцэнзіі? — спытаў ён.

— Нешта яны маўчаць, — махнуў рукой Вася.

Тэма ліцэнзіі ўзнікла пасля апошняй бойкі з паліцыяй, якая нечакана з'явілася канфіскаваць мотапомпы. Сур'ёзныя капачы, то-бок тыя, якія капаюць на глыбіні больш за дзесяць метраў і якія патрацілі вялікія грошы на «інвестыцыі», у якіх свае брыгады, запатрабавалі ад улад развязкі ў межах закону. Яны былі гатовы выкупіць свой участак і легальна працаваць.

— Мы пагадзіліся плаціць за адзін участак 1000 доляраў у месяц, — кажа Вася, — аднак з боку ўлад няма ніякага адказу. Час ідзе, а яны маўчаць. Відаць, ім падыходзіць, каб усё засталося па-старому.

* * *

— Найгорш было за Януковіча, — кажа Арцём. — Усё на хабарах і карупцыі трымалася. Нашы дубровіцкія *мянты* палацы сабе ў Кіеве паставілі. Карупцыя ішла дзень і ноч, нахабна, бесцырымонна, на вачах у белы дзень. Прыедуць такія са зброяй на поле, дзе гудзе мотапомпа, і назначаюць штраф на 500 доляраў. Плаці ім ад рукі, без ніякіх квітанцый, распісак. Адмовішся, дык хана. Усю апаратуру сканфіскуюць, або разбураць.

— А тут немалыя грошы, — уключаецца ў размову Вася. — Каб набыць неабходныя прылады, трэба мець найменш 10 000 доляраў. Адна мотапомпа каштуе 6 000 доляраў, да гэтага даходзіць матор ад „Мерседэса" за 1 000 доляраў і ўсё разам выходзіць найтанней за 3 000 доляраў.

Калі заедуць *мянты*, не пакінеш абсталявання, бо яны яго знішчаць, або забяруць з сабой.

Чалавек вымушаны плаціць, хоць сам яшчэ нічога не знайшоў, увесь стратны і ў даўгах.

— Раскажыце, — прашу сваіх бурштынавых бонзаў, — яшчэ пра драку з паліцыяй.

— Калі настаў Парашэнка, — пачаў Арцём, — то ўсе паверылі, што ў нас ужо не будзе карупцыі. Многія хлопцы, што зараз тут капаюць, на Майдане стаялі. І вось, калі з'явіліся па хабар *мянты*, і абралі сабе ахвяру, то ўсе, што капалі на полі, як на пажар збегліся. З лапатамі, з каламі. Мала бракавала, каб яны пайшлі ў рух. *Мянты* не былі падрыхтаваны на такое. Яны таксама не маглі прымяніць вострую зброю, бо ж па Майдане страляць да людзей рызыкоўна. Ім не дазволілі б спакойна жыць ва Украіне. Тады прыехала начальства ды з нашага боку пайшлі прапановы, каб па законе вырашыць праблему.

— На якім этапе зараз вашы перамовы? — пытаю ў дубровіцкіх „рабінзонаў".

— На такім, што ніхто пра нішто не ведае, — Вася бездапаможна развёў рукі. — Аднак ад таго часу *мянты* перасталі прыязджаць на поле за хабарам. Што з гэта атрымаецца, будзе відно. Можа гэта цішыня перад вялікай бурай!



■ Дарога на бурштынавае поле



■ Месца, дзе працавала мотапомпа

* * *

На Палессі, як нідзе ў свеце, „ведаюць" больш, чым ведаюць. Вось у час нашай простай і дзелавой гутаркі на бурштынавым полі было выказанае прароцтва наконт непазбежнай буры. Яна адбылася ў гарачы дзень, 29 ліпеня, у цэнтры Дубровіцы. Спачатку ўсё выглядала нявінна. Якраз у гэты дзень паліцэйскія з Роўнага рабілі руцінную праверку. Ахоўнікі парадку ездзілі па бурштынавых месцах і правяралі, ці працуюць там капачы з мотапомпамі. Паколькі пра аб'езд ведалі заранёў, на месцы падрыхтаваліся, схавалі ўсе прылады і доказы злачыннага промыслу. Сам канфлікт нібыта правакавалі мясцовыя, якія рашылі ехаць следам паліцэйскай калоны. Такога нахабства ўкраінскі паліцай не даруе! Хуценька перагарадзілі дарогу, арыштавалі некалькі асоб ды абстралялі машыну капачоў.

Вестка пра разбой на простай дарозе маланкава, то-бок мабільным шляхам, абляцела ўсю Дубровіцу. У мястэчку закіпела ад злосці. Мясцовы народ і прыезджыя з раёна сяляне шчыльна абступілі паліцэйскі пастарунак. Яны патрабавалі выпусціць на волю арыштаваных.

Паліцаі пайшлі на хітрыкі. Яны пераконвалі натоўп, што нібыта сканфіскавалі ў лесе мотапомпы і арыштавалі капачоў, злоўленых па гарачых слядах. Ніхто не паверыў у такія байкі.

— Пакажыце тады тыя мотапомпы! — крычаў і свістаў народ.

Непрыкметна ў мястэчку з'явілася нацгвардыя. І без папярэджання сталі страляць у натоўп гумовымі кулямі з адлегласці сарака метраў. Калі грамада кінулася разбягацца па вулачках і парку, стральцы цалялі ў выпадковых мінакоў. У цэлым закалоце падстрэлілі жанчыну ў нагу. У натоўп кідалі таксама шумавыя гранаты. Але раз'юшаны народ не дазволіў узяць сябе ў кальцо, вярнуўся пад будынак паліцыі і штурмаваў яго да таго часу, пакуль арыштаваных на дарозе не адпусцілі на волю.

Пасля цэлай дракі шмат назіральнікаў жадала нешта зразумець з таго, што адбывалася ў Дубровіцы. Гэтую падзею ў народзе ўжо называюць «паўстаннем».

— Народ крыўдуе на начальства і паліцыю не за тое, што яны застаўляюць плаціць хабар, — паўтаралі назіральнікам на вуліцы жыхары мястэчка. — а за тое, што начальства не дазваляе людзям зарабляць грошы.

У пазбаўленым прамысловасці раёне нелегальная здабыча бурштыну гэта часта адзіная крыніца заробку.

(працяг будзе)

Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК

ISSN 0546-1960